
Свята ў скіце → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Закаханая ў карунках → 8

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 39 (29400) Год LVII | Беласток, 23 верасня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# СВЯТЫЯ СЛОВЫ

Яўген ВАПА

„Вельмі добра, калі этнічныя беларусы маюць магчымасць вывучаць мову сваіх продкаў. Таму, што мова гэта галоўны ключ да культуры. Мова, культура, гісторыя народа — гэта нельга як-та разлучыць. Разумееце? Таму, што мова гэта асноўнае. Калі ёсць мова — ёсць народ. Калі няма мовы — няма народа”.

Шаноўныя чытачы — хуткая віктарына. Хто, на Вашу думку, аўтар гэтых радкоў? Можа Зянон Пазьняк — бескампрамісны змагар за незалежную Беларусь і былы лідар Беларускага народнага фронту, зараз у палітычнай эміграцыі, Івонка Сурвіла — старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на чужыне, а можа святой памяці Васіль Быкаў — якога апошняя, доўгая дарога дадому таксама была назначаная пераследам лукашысцкіх апрычнікаў і горкім смакам эміграцыі. Так, гэтыя людзі напэўна не адзін раз не толькі падобнымі, сваімі словамі, але і дзеяннямі даказвалі ўсю нацыянальную праўду, за якую прыходзіцца цярпець здзекі над беларускасцю. Але... увага, геройскім аўтарам гэтых радкоў з'яўляецца не хто іншы як консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку... Аляксандр Сувораў, у выказванні для тэлевізійнай праграмы „Беларускі тыдзень”, якая пабачыла свет 9 верасня. (http://www.tvp.pl/bialystok/mniejszosci/tydzien-bialoruski/wideo/). Спрактыкаваны дыпламат аб'яўляў з усмешкай свае праўды гораду і свету (urbi et orbi), на інаўгурацыі школьнага года ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, суправаджаючы там свайго кіраўніка — амбасадара Віктара Гайсёнка. Пачуўшы нешта такое ў нядзельку з раніцы атрымаў я такі зарад эмоцыяў, мацнейшых нават за любімую ў гэтую пару дня зялёную гарбату. Спачатку ўскіпеў, быццам гэты чайнік на кухні, але потым паспакайнейшы... пагадзіўся з выказаным. Так, гэта былі шчырыя, фарысейскія словы. Я поўнасцю падтрымліваю ідэю, каб этнічныя беларусы перадусім у... Рэспубліцы Беларусь вывучалі ўсе прадметы на роднай мове. І спачатку хацеў бы пабачыць як баявіты консул выступае з такімі палымянымі прамовамі непадалёк ад нас, у Гродне ці Бярэсці, перад сваімі калегамі вертыкальшчыкамі, якія там спляжылі ўсё беларускае. У гарадах дзе няма беларускіх садзікаў, школ, універсітэтаў. Няма таго і па ўсёй Беларусі. А сваю адозву-праўду консул абавязкова павінен адправіць Аляксандру Рыгоравічу, якому пасля прачытання ўрэшце зыдзе бяльмо з вачэй і прападзе вашчына з вушэй. Але пакуль справа дойдзе да кіраўніка дзяржавы, дык можа спачатку поўнасцю расейскамоўны сайт Міністэрства замежных спраў Беларусі стане беларускамоўным? Ёсць мова — ёсць народ? — гаворыце. Паводле Вас так мае выглядаць вонкавае выяўленне беларускай дзяржаўнасці Вашага ведамства? Дык з чым маем зараз дачыненне ў Беларусі? Баюся голасна выказваць гэтыя словы — але ідзе цяпер мэтанакіраваны працэс нацыянальнага разбурэння, які мае ўжо прызнакі моўнага генацыду. Як прыемна пабываць у гайнаўскім ліцэі, карыстаючыся прывілеямі дэмакратыі і заклікаць ліцэйскую моладзь да падтрымлівання беларускасці ў Польшчы, адначасна даўно выганяючы з краіны беларускі мінскі гуманітарны ліцэй, што дзейнічае ў падполлі і бадзяецца ў замежжы! Так мае выглядаць будучыня беларускай мовы і моладзі? Людзей, для якіх беларускасць — гэта не пустое — а святое! Гэта дзякуючы іхняму змаганню за беларускасць можаце Вы і іншыя дыпламаты яшчэ называць сябе прадстаўнікамі — пакуль што, незалежнай беларускай дзяржавы. Моладзь — якая выкідваецца з універсітэтаў, штрафуецца, садзіцца ў турмы, прымушаецца з'язджаць з краіны. Перамолатыя чалавечыя лёсы тысячаў верных дзяцей сваёй Бацькаўшчыны — гарантам добрага самаадчування ўсіх прыўладных саўдзельнікаў у злачынстве! А можа ўсе беларускія дыпламаты з Польшчы выступяць разам з лекцыяй перад сябрамі Маладога фронту і там, глядзеўшы малодым юнакам у вочы, адкажуць, чаму іхні лідар Зміцер Дашкевіч атрымаў яшчэ чарговы год турмы (3 гады), толькі за тое, што кахае Беларусь і родную мову! А старальнік арганізацыі Павал Севярынец адбывае чарговую «хімію».

І таму прашу шаноўных дыпламатаў: не рабіце нас, беларусаў у Польшчы, ідыётамі, якіх можна заваражыць і заманіць прыгожымі словамі, касцюмамі, ноўтбукамі, візамі ці экскурсіямі. Вы кажаце: „няма мовы — няма народа”. Так, спадары дыпламаты, няма народа — калі ўсё адбываецца на мове хлусні, цынізму, падману. І не ашукаеце ўсіх — хаця будзе гэта выказанае па-беларуску. Мы проста і так Вам не будзем верыць.




## УВАГА КОНКУРС

### XV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.** У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

***Прынцыпы ўдзельніцтва***

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— **І група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— **ІІ група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у чатырох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: **Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XV Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

***Тэрміны***

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае **25 лістапада 2012** г. (вырашае дата паштовага штампа).

2. Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні 2012 г.

3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.





# Быць хрысціянінам

Быць хрысціянінам у сучасным свеце досыць няпроста. Ісламскі радыкалізм, які перарастае ў сапраўдны ісламафашызм, у некаторых краінах не пакідае для хрысціян месца нават для фізічнага існавання. Найбольш забойстваў і пераследу на планеце паводле канфесійнай прыналежнасці адбываецца зараз менавіта ў дачыненні да прыхільнікаў вучэння Ісуса Хрыста. Але быць хрысціянінам складана нават у тых краінах, дзе дамінуе ці мусіць дамінаваць гэтая рэлігійная плынь. Вяду тут гутарку да нашых рэалій — сітуацыі ў Беларусі і ў Расеі, ад прысутнасці і ўплываў якой нам нікуды не падзецца ў бліжэйшым часе. У Расеі праз стагоддзі ішла палітыка цэзарапапізму — зрошчвання дзяржаўнай і царкоўнай улады. І гэта нягледзячы на глыбокія асновы і духовыя здабыткі расейскага праваслаўя, якое вартае вялікай павагі. Зараз жа мы назіраем там няўклюдную клерыкалізацыю ў пошуках дзяржаўнай ідэалогіі. Цяжка і хутчэй нават не патрэбна ацэньваць царкоўных іерархаў. Але ж у нашай журналісцкай працы няма іншага выйсця. Тым больш, што ацэньваем мы зазвычай не духовы, а палітычны складнік. Дык вось, слухаючы вышэйшых кіраўнікоў Расійскай Праваслаўнай Царквы, у тэлебачанні канешне, у большыні выпадкаў і запярэчыць няма чаго. Правільныя словы, кананічныя пастулаты, лагічныя развагі — фармальна ўсё бездакорна. Але няма галоўнага — не адчуваецца шчырасці, а яшчэ дакладней — любові. Без яе ж хрысціянства губляе ўвесь свой глыбокі сэнс, бо Бог ёсць любоў, так правільна нас вучыць Царква, і сумневаў у гэтым няма. А тут яшчэ гэтая недарэчная гісторыя з..., як бы тут прыстойней выславіцца, жаночым панкгуртом і яго дурной акцыяй у храме. Дзяржаўная ўлада пры патуранні і значным блаславенні вышэйшай царкоўнай улады пайшла на неадэкватныя рэпрэсіі. І сутнасць заключаецца ў тым, што Царква першапачаткова была ні пры чым, а закранулі венцаноснага прэзідэнта. Прэзідэнта Пуціна, які наўпрост публічна заяўляў, што верыць не ў Бога, а ў чалавека. У выніку ў гісторыі з гэтымі „пусямі" адбылася падмена паняткаў.

Сітуацыя выклікала міжнародны розгалас і скандал, яшчэ горш, што дзеянні расейскай вышэйшай улады прывялі да хвалі нянавісці. Адны з дзікім імпэтам узяліся лінчаваць гэтых прымітыўных у сваёй сутнасці маладых жанчын і заклікаць да самага жорсткага пакарання (урэшце два гады калоніі строгага рэжыму ў такой дзяржаве як Расея — кара сапраўды вельмі жорсткая!), іншыя ў парыве тупой атэістычнай агрэсіі кінуліся пілаваць і нішчыць крыжы. Нянавісць толькі памножылася, хрысціянства толькі прайграла.

У выніку дайшло да абсурду — гэтыя дзеўкі, якія ўляпаліся ў дурную гісторыю, зараз намінуюцца на міжнародную прэмію імя Андрэя Сахарава. Разам з гераічнымі праваабаронцамі з Пакістана, Ірана і Руанды, разам з нашым Алесем Бяляцкім.

У Беларусі сітуацыя аналагічная расейскай. Толькі тут мясцовы ўладар некалькі разоў ладзіў проста з амбона свае прамаўляльныя „панк-акцыі", досыць крамольныя паводле хрысціянскіх канонаў. Але рэакцыі іерархаў на гэта не было ніякай. У Беларусі дзяржаўная ўлада і Праваслаўная царква, а з нядаўняга часу і Каталіцкі касцёл таксама складаюць адно цэлае.

А для мяне прыкладам хрысціяніна з'яўляецца Зміцер Дашкевіч, сапраўдны пакутнік нашага часу. За што яго пераследуюць і здзекуюцца? Па-сутнасці за тое, што ён узняў бел-чырвона-белы сцяг Хрыста, за любоў да свайго. За што па-сутнасці пераследуюць Алеся Бяляцкага? Найперш за дапамогу бліжнім, фактычна за хрысціянскае служэнне. Свае 50-я ўгодкі Алесь сустракае на гэтым тыдні ў вязніцы за кратамі. Добры бацька, узорны сем'янін, зычлівы сябар — усё гэта якраз пра яго. Колькі ведаю Алеся — ніколі не бачыў яго злым альбо ў гневе. Нават зараз у лістах няма ніякага намёку на помсту крыўдзіцелям. Алесь Бяляцкі — шчаслівы чалавек, бо ён сядзіць за праўду і ведае сваю місію. У адрозненне ад тых, што ў аснову свайго жыцця і дзейнасці паклалі нянавісць. Ды яшчэ прыкрываюцца Царквой.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Узбіць яйкі

Медсёстры рыхтуюцца да слушнага пратэсту. Не падабаюцца ім г.зв. смеццевыя працоўныя дамовы, якія прымушаюць да рабскай працы. Да пастулатаў далучыліся аднак патрабаванні павышэння заработнай платы, што робіць іхняе выступленне менш слушным. Датычыць гэта і настаўнікаў, што плануюць страйк супраць дурных рэформаў у асвеце. Пры нагодзе хочуць выступіць у абароне настаўніцкіх прывілеяў. Ну што ж, кожны мае права на такое ўзбіванне яек з цукрам, на якое мае смак. Пытанне толькі, з чаго і чыім коштам. Падобна да „ўзбівання яек" шыкуюцца прафсаюзнікі з „Салідарнасці". Прадбачылі якраз на восень уз'яраныя пратэсты, паколькі не пагаджаюцца на павышэнне пенсіённага ўзросту да 67 гадоў, аднолькавага для жанчын і мужчын. Невядома, ці маюць наўме дабро мужчын ці жанчын і перш за ўсё невядома, хто пасмакуе гэтага „когелю-могелю", які яны заўзята будуць узбіваць на вуліцах Варшавы. У сваю чаргу радыёмарыйнае асяроддзе заклікае да генеральнага выступлення перад Сеймам. Тэрмін яшчэ не вызначны. Масіўны дэсант „мохеравых бярэцікаў" мае служыць абароне дэмакратыі якая быццам бы пад пагрозай таго, што тэлебачанню „Trwam", будучаму часткай медыйнай імперыі айца Рыдзыка, не далі канцэсіі ў рамках гэтак званай лічбавай агульнакраёвай платформы. Ну што ж, дэмакратыя дэмакратыяй, а айцец Рыдзык... і так сваё ведае. Хто там яшчэ рыхтуецца да ўзбівання когелю-могелю? Ці мо не Качынскі Ярослаў, які за безупынныя выбарчыя правалы, якія ад гадоў дастаюцца яго апазіцыйнай партыі, абвінавачвае ўсё і ўсіх, толькі не самога сябе? Разумная, апазіцыйная да кіруючай партыя — вельмі патрэбная ў дэмакратычным грамадстве. Аднак калі яе апазіцыйнасць абмяжоўваецца да паказнога ўзбівання яек пад Прэзідэнцкім палацам у рамках гадавіннага смаленскага замяшання, не здзіўляе тое, што Грамадзянская платформа паводзіць сябе як марынаваны грыбок, уцёкшы з-пад відэльца: „Hop, hop po kanapie, a Bączyński mnie nie złapie!". Ну што вы! Гэта так мае выглядаць разумная палітыка?

Узбіванне яек чужымі рукамі або чужым коштам гэта паспалітая рэч. І гэта не толькі ў Польшчы, але і ва ўсім свеце. Даказваюць гэта апошнія падзеі ў ісламскіх краінах. Вялікія замяшанні, спальванне пасольстваў, таптанне сцягоў заходніх краін стала ўлюбёнай забавай неапанаванага натоўпу. Хто іхнімі рукамі ўзбівае сабе салодкія яйкі? Таксама невядома. Мой вельмі вучоны знаёмы крохкасць сусветнага міру параўноўвае да шкарлупкі яйка. Пабіць яе — лёгкая справа. Хопіць падбухторыць мужчынскае шавіністычнае „эга". Паколькі ўсе нам вядомыя ідэалогіі і рэлігіі падшытыя самцовай хіміяй, — кажа ён, — дык не трэба вялікага старання, каб мужыкі ўхапіліся за чубы. Напрыклад, прычынай таму можа быць тое, што ікона юдэя-хрысціянскага свету, а тым самым заходняй культуры, біблейскі цар Саламон хваліўся тым, што мае 700 жонак і 300 наложніц, затое стваральнік ісламу, Магамет, ледзь 16 жонак і 6 наложніц. Ці паклоннікі Магамета могуць такое адпусціць? — рытарычна пытаўся мой знаёмы. Я асмеліўся яму прыгадаць, што паслядоўнікі ісламу не маюць прычын для фрустрацыі, паколькі рэкардсменам у гэтым плане быў гарачы вернік Магамета, Муляй Ісмаіл, уладальнік Марока з дынастыі алавітаў, які нажыў сабе 1000 жонак і нападзіў з імі 888 дзяцей. Аднак мой знаёмы маю ўвагу прапусціў паміж вушэй. Спрытна аднак прыкмеціў, што іслам заўзята абараняе ў сваім светапоглядзе дамінацыю мужчынскіх элементаў над жаноцкімі, інакш чым заходні свет, які штораз больш бабее. Мужчыны ўступілі ва ўсім жанчынам і ўступяць яшчэ больш. Гэты працэс, — стаў узбіваць свае яйкі мой знаёмы, — пусціў у рух у раннім сярэднявеччы сінод у Маконе ў Бургундыі. Скліканыя там біскупы мелі вырашыць пытанне, ці жанчына мае душу. Існуе верагоднасць, што яе мае, — агучылі на канец. Толькі што аб іх рашэнні вырашыла інтрыга жонкі караля Хільперыка, Фрэдэгунды. Абрыдлі ёй залёты ўплывовага біскупа Нектарыя, гарачага працаўніка гэтай думкі, дык абвінавацiла яго ў пакражы... шынкі з каралеўскай спіжарні. Нектарыя прагналі, а жаночая душа, назаўжды дапушчаная да голасу, не сціхае. Доказам гэтаму з'яўляецца Кангрэс жанчын, які апошнім часам праводзіўся ў Варшаве. Яго ўдзельніцы прынялі цэлы пакет прэтэнзій і патрабаванняў ад мужчын. Гэта пачатак канца! — аб'явіў мой знаёмы і зняў замглёныя хваляванням цёмныя акуляры. — А гэта мая жонка, — прызнаўся мой знаёмы, паказваючы сіняк пад вокам. Ну і ячня!

Міраслаў ГРЫКА

Вачыма еўрапейца

# Беларусы памечаны зорачкай



Гэта мела быць звычайная прэс-канферэнцыя, прысвечаная супольнай інаўгурацыі мастацкага года Драмтэатра імя Аляксандра Вянгеркі і Беластоцкага цэнтра культуры. Тым часам журналісты, якія прыйшлі на прэс-канферэнцыю ў «Вянгерцы», здзівіліся лікам сабранай на сцэне групы прадстаўнікоў культурных установаў і арганізацый, якія дзейнічаюць у Беластоку. Аказалася, што ўжо перад прадбачанай сустрэчай са СМІ дайшло да заснавання новага тварэння — установы са спецыяльна выдуманай назвай «Wspóltura», ідэяй якой з'яўляецца «мастацкае, мерытарычнае і арганізацыйнае супрацоўніцтва паміж установамі, якія займаюцца культурай, мастацтвам і асветай у Беластоку і на Падляшшы ды прамоцыяй яе ў Польшчы і ў свеце». З такой ініцыятывай выйшаў Драмтэатр. Як адзначыла ягоная дырэктарка Агнешка Карыткоўская-Мазур, тут гаворка перш за ўсё аб супольнай рэалізацыі мастацкіх і асветных праектаў, здабыванні вялікіх еўрасаюзных, міністэрскіх і гарадскіх сродкаў, будаванні культурнага брэнду Усходу. Уступна «Вспультуру» складае дваццаць адна меншых і больш установ і арганізацый. На жаль, на ініцыяцыйным узроўні не прынялі пад увагу ні адной арганізацыі нацыянальных меншасцей, у тым ліку беларускай, якія таксама ж дзейнічаюць у рамках культуры. У час сустрэчы я дазволіў сабе звярнуць на гэта ўвагу. Дырэктар Карыткоўская-Мазур адзначыла, што формула «Вспультуры» адкрытая і кожны можа заявіць далучэнне да яе, што ў надрукаваных матэрыялах, у якіх пералічваюцца члены ўстановы, прыгадваць мае зорачка, каля якой адзначана: «спісак удзельнікаў адкрыты і можа падлягаць змене. Запрашаем да супрацоўніцтва». Я дазволіў сабе сказаць, што беларуская меншасць, асабліва ў Беластоку, зноў трактуецца «праз зорачку», а не як раўнаважны партнёр пры будаванні новых ідэй.

Пасля сустрэчы падышла да мяне актрыса Драмтэатра Барбара Май, якая займалася падрыхтоўкай спіска ўдзельнікаў першай сустрэчы «Вспультуры» і тлумачылася, што жыве ў Беластоку ад дванаццаці гадоў, а родам сама з заходняй Польшчы:

— Я проста аб вас нічога не ведаю. Ведаю толькі, што вы ёсць.

Прызнаюся, ахапіў мяне жах. У гэтым кантэксце крыху аптымістычна прагучалі выказаныя са сцэны словы дырэктара дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы:

— Наша ваяводства адметнае ад іншых ваяводстваў Польшчы. Толькі тут засталіся парэшткі Вялікага Княства Літоўскага. Мы — адзіныя спадчыннікі Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, у гэтым добрым значэнні (...). Без добрага супрацоўніцтва з Усходам не будзе добрага супрацоўніцтва з Захадам.

Для некалькіх удзельнікаў сустрэчы найважнейшым аказалася, каб «Вспультура» пільнавала таго, каб вялікія імпрэзы ў Беластоку не праводзіліся ў той самы час. Такую думку пра "Вспультуру" выказаў м.інш. прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі, які прызнаўся, што гарадскіх грошай у сувязі з узнікненнем гэтага новага тварэння не будзе, ды дзякуючы гэтай ініцыятыве «за гэтыя самыя грошы будзе можна атрымаць лепшыя прадукты». І дадаў, што «Вспультуры» «не будзе перашкаджаць», а праз хвіліну дакінуў: «Ну... паможам» і выйшаў разам са сваёй прэс-сакратаркай на сустрэчу, звязаную з адкрыццём новага камісарыята. У сваю чаргу падляшскі віцэ-маршалак Яцак Пярунак не скрываў, што самаўрадавых ваяводскіх грошай такіх вялікіх, як на заснаванне і дзейнасць Падляшскай оперы — не будзе. Пасля спаткання, на канец нашай размовы, Барбара Май папрасіла мяне, каб я склаў і перадаў ёй спісак тутэйшых беларусаў і беларускіх арганізацый, якія маглі б быць запрошаны ў "Вспультуру". Пасля таго, што я пачуў ад яе і ў час сустрэчы на сцэне я не ўпэўнены, ці мне выканаць яе просьбу.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Свята ў скіце

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Гэтае свята павінна быць памечана чырвоным колерам у календары, — шапталі паломнікі, праходзячы па драўлянай, васьмісотпяцідзесяціметровай кладцы, пралягаючай праз балоцістую тэрыторыю, спалучаючай ускрай вёскі Адрынкі з урочышчам Кудак. Гэта тут, ужо нават у пешых паломніцтвах, вандруюць пілігрымы ў скіт айца Гаўрыіла. У апошні час прыбылі сюды ў першы дзень літургічнага новага года, значыць, 14 верасня. У гэты і наступны дзень вернікі ўпаміналі святых Антонія і Феадосія Пячэрскіх, заступнікаў скіта. Айцец Гаўрыіл, завіхаючыся пры святочных падрыхтоўках, раздумваў: „Чырвоны лісток у календары? Гэта ўжо будзе так, як вырашыць сабор епіскапаў. Як ён вырашыць, так і будзе. Калі Госпад епіскапам пакладзе гэта на сэрца, так і будзе".

Усяночнае дбанне і літургію ў наступны дзень узначаліў сямятыцкі епіскап Георгій. Кожны з каля дзвюх тысяч вернікаў маліўся ва ўласнай, нявыказанай уголас інтэнцыі. Шмат — за памерлых. Многія — за здароўе блізкіх і ўласнае, верачы, што святасць месца, — а можа і нейкая аздараўляльная моц самога айца Гаўрыіла паможа.

— Мы прыйшлі таму, што гэта такое святое месца, — так проста паўтаралі паломнікі, таксама дзве старэйшыя прыхаджанкі Ласінскай парафіі.

Перад галоўнай літургіяй можна было пабачыць айца Гаўрыіла сярод жанчын чысцячых бульбу, зараз пасля ён знікаў і быў ужо пры браме, дзе паломнікі ўзрушана цалавалі яго ў руку. Іншым разам спаглядаў, ці поўныя больш за тысячалітровыя кантэйнеры з вадой. Знайшоў таксама час і для „Нівы":

— Гэта вялікая, вялікая падзея для нас, што мы можам спраўляць свята на гэтым грудку, дзе вачам князя Івана Вішнявецкага явілася была ікона прападобнага Антонія Пячэрскага, і які рашыў паставіць тут часоўню ў яго гонар. Мінуў час. Ад XIX стагоддзя тут нічога не было. Цяпер адраджаецца новае духоўнае жыццё. Я ўдзячны, што прыбывае народ. Калі б народ не адчуваў гэтую мілату Святога Духа, дык на гэтае месца не прыбываў бы. І найважнейшае якраз тое, што на гэтым месцы адчуваецца мілату Святога Духа. Гэтае месца мае свой асаблівы клімат. Што будзе далей? Пажывем і пабачым.

Яшчэ да пачатку галоўнай літургіі праз драўляны памост з боку вёскі прыбывалі тлумы, як заўжды з падарункамі. Каля пяцідзесяці паломнікаў прыбыло на аўтобусе з сямятыцкіх Петрапаўлаўскага і Узнясенскага прыходаў. Сярод іх ішла ўсхваляваная Валянціна Садоўская, старшыня сямятыцкага Брацтва Кірылы і Мяфодзія:

— Мы прывезлі шмат алею, макаронаў, цукру, мукі, кашы і пірагоў, бо тут няма электратоку, каб іх спячы.

Айцец Гаўрыіл:

— Ёсць шмат работы, каб прыняць людзей, пачаставаць стомленых міскай супу, кавалкам пірага, кубкам зёлкавага чаю. Цэлы штаб людзей трудзіцца. Больш за дзвесце асоб шыкавала свята. Трэба бегаць, лятаць як анёл, каб памагчы ў падрыхтоўках, каб народ быў задаволены і ніхто не адчуў сябе пакрыўджаным, каб кожны выйшаў са свята задаволены і радасны, і Госпад мог яго збавіць.

Ад пасвячэння скіта — цуда XXI стагоддзя — як яго назваў 15 верасня 2009 года мітрапаліт Сава, найважнейшы тут, аднак, не пачастунак. Валянціна Садоўская:

— Галоўная мэта нашага паломніцтва — малітва. Для нас, вернікаў, гэта новае месца. Я паломнічаю сюды другі раз. Папярэднім разам, 25 жніўня, арганізавала вялікае паломніцтва з Брацтвам Кірылы і Мяфодзія. Ішоў тады такі моцны дождж. Ліло як з вядра. Зараз пасля таго, як мы дайшлі, айцец разагрэў нас самавітым супом. Пасля правёў па скіце. Расказаў, як будаваў гэты скіт. Цэласць займае тры і шэсць дзесятых гектара. Тут нават ёсць пасадачнае месца для верталёта, бо можа не даехаць машына, калі б каму стала блага. У час маёй першай пабыўкі я так набралася духу, што вярнуўшыся адразу рашыла, што зноў сюды паеду. Буду сюды прыязджаць, як толькі змагу.

Дваццаць сем кіламетраў адмералі да Адрынок першыя пешыя пілігрымы — з прыхода ў Чыжах. Схіліў іх да гэтага айцец Марк Якімюк:

— Быў час, калі было модным ісці ў розныя манастыры. Напрыклад, з Беластока ішло ў групе па дзве тысячы асоб. Цяпер іх ходзіць па менш, па 200-300 чалавек. Паломніцтва ўжо не мода, але прага. Ісці ў пілігрымцы нялёгка. Гэта не экскурсія, момант на забаву, а перадумка ўсяго жыцця, таго, як жыву. Гэта таксама кантакт з прыродай. Спачатку думалі мы ісці праз Кленікі і Нарву — па асфальце. Ды я падумаў: гэта ж першая ў Адрынкі пешая пілігрымка, трэба ісці тудою, дзе прырода. І пайшлі мы наўкола: праз Курашава, Макаўку, Крывец, Ваські, Рыбакі. На ўсёй дарозе — жвіроўка, лес, хутары, а на іх хаткі. Ніхто нам не перашкаджаў. Не ездзілі машыны. Кожны мог спакойна думаць пра Бога, пра сваё жыццё.

Айцу Марку скіт вельмі блізкі:

— Навокал багна, трыснёг, вада, рака. Лес бліжэй і далей. Ніхто яшчэ пару гадоў таму не падумаў бы, што тут будзе духоўнае жыццё. А знайшоўся ў гэтым XXI стагоддзі чалавек, які без электратоку, без камп'ютара, без тэлевізара, без тэхнікі і цывілізацыі не вярнуўся ў развіцці, а пайшоў дапераду і іншым дапамагае ў духоўным развіцці. Адорвае людзей духоўным жыццём. Айцец Гаўрыіл прыйшоў тут сам, шукаючы збаўлення, а колькі асоб далучылася да яго дзякуючы гэтаму месцу. Усё тут зробленае з сэрцам, а не так, каб толькі абы было. Царкоўка, капліčка, а нават тая кладка ў бок вёскі даюць кожнаму падставу для задумы як ён жыве, як можа сябе перамяніць. Гэтае месца змяняе чалавека.

Епіскап Георгій спаслаўся ў час літургіі на сучасную мадэль жыцця, якога праяваў у скіце не відаць з-за акаляючых яго дрэў, на тэлевізійныя музычныя і танцавальныя шоў, у якіх удзел і перамога для маладых адназначны шчасцю:

— Гэтае шчасце, якое ацаняем у сваіх разумовых пачуццях, аказваецца несапраўдным, згубным для чалавека. Блажэнства гэта больш чым шчасце. Чалавек дабрашчасны, калі яго ў нічым не грызе сумленне. Не знойдзецца ў свеце чалавек, які будзе мець крыштальначыстае сумленне. Ды імкненне да тае чысціні з'яўляецца якраз імкненнем да шчасця.

Засяроджаныя вернікі са свечкамі ў руках слухалі:

— Сумленне з'яўляецца духоўным барометрам, які нам паказвае баланс паміж дабром і злом. А паколькі немагчыма мець заўжды чыстае сумленне, збаўленне чалавека здзяйсняецца ў пастаянным невялікім незадавальненні самім сабою. Шчаслівы чалавек пастаянна адчувае гэты недахоп (...). Калі чалавек пачынае больш бачыць свае слабасці, грахі, гэта першая прыкмета духоўнага здароўя, яго евангелічнай дабрашчаснасці. Дабрашчасныя ўбогія, тыя што плачуць, міратворцы, чыстыя сэрцам. Гэтага, на жаль, у сённяшнім свеце, паняць не ўмеем. Гэта не толькі праваслаўная праўда, а проста чалавечая.

Сужонства з Беластока засяроджана ўслухалася ў словы сямятыцкага пастыра, а пасля прызналася:

— Мы са Свята-Духаўскага прыхода. Вядзем невялікую фірму. Ад пару месяцаў намерваемся яе зачыніць. Мусім. Не даем сабе рады. Як будзем жыць далей? Прыйшлі мы памаліцца за сваю будучыню.

Раней таксама яны пачулі ад епіскапа Георгія:

— Крызіс не можа паявіцца от так сабе. Крызіс можа быць вылечаны праз вылячэнне прычыны, а не рэзультату. Таму Царква заклікае і будзе заклікаць да таго, каб людзі знайшлі ў сабе прычыну, якая даводзіць нас да цяжкасцей і праблемаў, да крызісу. Паняцце эканамічнага крызісу з'яўляецца вельмі мелкім паняццем. Па-сутнасці гэты крызіс гэта духоўны крызіс, таму што чалавек не ўмее даць сабе рады з багаццем, якое даецца яму Богам. (...) Багацце гэта таксама дар Божы, якім можна распараджацца добра або кепска. Можа давесці да таго, да чаго даходзіць сёння ўся Еўропа і — як кажуць — дойдзе наша краіна. Стараймася імкнуцца да гэтай дабрашчаснасці, якая мірней за ўсё, ад усяго найбольш сутная і звышчалавечая. Гэта не акт, гэта працэс, пажыццёвы працэс.

Сярод пілігрымаў паявіўся таксама Юры Каліна, аўтар фільмавага дакумента „Архімандрыт" пра айца Гаўрыіла і яго пустэльню. Некалькі дзён раней атрымаў ён за гэты фільм чарговую ўзнагароду. У гэты раз на Каталіцкім фестывалі хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм у Мінску. Чаму надалей вяртаецца ў скіт?

— Таму, што там адчуваю як у пераддзвер'і будучага жыцця, якое нас чакае пасля гасціны на зямлі. І таму ўсведамляю сабе, якая ў мяне малая вера. Калі некалькі гадоў таму архімандрыт расказваў мне пры сваім „вазку Джымалы", што ўзнікне тут месца, якое будзе прыцягваць тысячы людзей, я ў духу яму не паверыў!



## Прызы выдатным малочнікам

Кляшчэлеўская гміна спецыялізуецца ў вытворчасці малака. І ў гэтым сектары дабілася значных поспехаў. У дзень Свята ўраджаю, якое адзначалася 2 верасня, перадавым жывёлагадоўцам і пастаўшчыкам сельскагаспадарчай вытворчасці былі ўручаны прызы — пераходныя кубкі павятовага старосты і бурмістра горада Кляшчэлі. Гэтай апошняй узнагароды ўдастоіліся дзевяць малочнікаў. А былі гэта:

1 — Кацярына і Максымільян Коц з Пятроўшчыны. Сужонства заняло ІІ месца ў вытворчасці малака. У мінулым годзе прадалі на скупку 125 тысяч літраў гэтай сыравіны. Іхні статак лічыць 60 галоў жывёлы.

2 — Спадарства Марыя і Яраслаў Балейка з Кляшчэляў, якія апрацоўваюць 30-гектарную гаспадарку. Іхні статак налічвае 40 штук жывёлы, у тым ліку 25 дойных кароў. У мінулым годзе прадалі яны 88 тысяч літраў малака.

3 — Сужонства Іаланта і Міраслаў Зубікі з Сакоў прадалі на скупку 84 тысячы літраў малака. Займаюць трэцяе месца ў гміне па вытворчасці гэтай сыравіны.

4 — Спадар Пятро Дмітрук з Тапаркоў прадаў Гайнаўскаму малочнаму камбінату 66 тысяч літраў малака і лічыцца чарговым лаўрэатам бурмістра горада Кляшчэлі.

5 — Спадарства Малгажата і Веслаў Місюкі з Сакоў апрацоўваюць 10-гектарную гаспадарку. Спецыялізуюцца ў малочнай жывёлагадоўлі. У мінулым годзе прадалі больш за 56 тысяч літраў малака.

6 — Сужонства Аліна і Раман Літвінюкі з Сакоў апрацоўваюць 11-гектарную гаспадарку. Іхні статак налічвае 24 штукі жывёлы, у гэтым ліку 13 дойных кароў. У мінулым годзе прадалі на скупку 51 тысячу літраў малака.

7 — Барбара і Яўген Воўчыкі з Тапаркоў апрацоўваюць 35 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. Іхні статак налічвае 18 штук жывёлы, у гэтым ліку 12 дойных кароў. У мінулым годзе прадалі ў Гайнаўскі малочны камбінат 49 тысяч літраў малака.

8 — Спадарства Анэта і Дарыюш Казлоўскія з Пятроўшчыны апрацоўваюць 19 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. Іхні статак налічвае 24 штукі жывёлы, у гэтым ліку 16 малочных кароў. У мінулым годзе прадалі на скупку 47 тысяч літраў малака.

9 — Гаспадарка Іаанны і Міхала Міцэвічаў з Дашоў налічвае 22 гектары сельскагаспадарчых угоддзяў. Сужонства спецыялізуецца ў малочнай жывёлагадоўлі. Іхні статак налічвае 18 штук жывёлы, у гэтым ліку 9 дойных кароў. У мінулым годзе прадалі Гайнаўскаму малочнаму камбінату 41 тысячу літраў малака і апынуліся на 10 месцы спіска найбольшых пастаўшчыкоў белай сыравіны ў Кляшчэлеўскай гміне.

Віншуем з узнагародамі!

**Уладзімір СІДАРУК**

## Заасфальтавалі

Калі 16 ліпеня пачалі асфальтаваць вуліцу ў вёсцы Бялкі Нарваўскай гміны, дык цягам чатырох дзён закончылі работу. Паклалі асфальтавае палатно пяціметровай шырыні ў цэлай вёсцы ды яшчэ сто метраў за вёскай. Пабочныя вуліцы асталіся пясочнымі з абодвух бакоў. Чаму чыноўнікі павятовых дарог у Гайнаўцы ды Гмінная ўправа ў Нарве не падумалі, каб пакласці тратуар хаця б з аднаго боку вуліцы, так як гэта ёсць у многіх вёсках нашага павета? Падумайце, даражэнькія, і давядзіце да канца работу на вуліцы ў вёсцы Бялкі.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**



Дажынкавы карагод

■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Неслі плён у Залуках

„Хлеб ды соль, хлеб ды соль, наш паклон дарагім гасцям" — словамі такой песні ў суботні пасляабедзенны час 8 верасня вітаў калектыў „Расспяваны Гарадок" на гарадоцкіх гмінных дажынках. Ужо традыцыйна сарганізаваны яны былі на школьным пляцы ў Залуках і на тутэйшай амфітэатральнай сцэне. Свята інаўгураваў, вядома, карагод з вянкамі. Войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша асабіста частаваў сабраных хлебам толькі што пасвячаным перад сцэнай настаяцелямі мясцовых прыходаў — праваслаўнага і каталіцкага.

73-гадовая Анна Філіпчук, найстарэйшая сяброўка залучанскага калектыву „Каліна", у размове з „Нівай" успомніла:

— Калісь дык было зусім інакш. Сярпамі жалі, малацілі ў стадолах. А цяпер камбайн на поле прыедзе, скосіць і ў паўгадзіны ўжо ўсё кончана. Мы, старэйшыя, прабуем падтрымліваць традыцыі. У „Каліне" спяваем старыя дажынкавыя песні. Калісьці адзін аднаму дапамагалі, а цяпер няма такой супольнасці. Хлеб трэба шанаваць, ён для нас — усё.

Прадстаўніца маладога пакалення Агнешка Паплаўская з калектыву „Калінка" расказвала нам:

— Ад некалькіх гадоў гмінныя дажынкі арганізуюцца ў Залуках. Калісь былі ў Гарадку. Гэта завяршэнне жніва, канец цяжкіх летніх прац у полі. Калісь мы заўсёды спявалі дажынкавыя песні. Цяпер ужо не. Мы выконваем песні такія больш сучасныя. Як мне гаварыла бабця, самі дажынкі таксама больш сучасныя. Гаспадаркі маюць розныя машыны для дапамогі.

Янка Карповіч з Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку, член капэлы „Хутар", прыгадаў:

— Калісь зажыналі, абліваліся вадою, перапёлкі плялі, спявалі. За часу маёй мамы, пасля работы, сустракаліся ў святліцы і спявалі вечарамі. Бывала і так, што гаспадар прыносіў на поле пачастунак, і каб што выпіць было. Цяпер традыцыя мяняецца, змяняецца час. Я веру, што дажынкавая традыцыя будзе трымацца, бо гэта ж забава. У рэпертуары „Хутара" маем жніўныя песні, з асенняга абрадавага перыяду, напрыклад „Ой, у полі жніўка".

Адзначыў:

— Хлеб у народзе гэта самая святасць. На жаль, цяпер і ў мяне дома купляем хлеб з пякарні. Раней мама пякла. Збожжа з першага жніва бацька малаціў цэпам. У Гарадку быў калісь млын і з таго збожжа пяклі хлеб.

Гарадоцка-залучанскія гмінныя дажынкі, насуперак традыцыі, не былі папярэджаны падзячнымі малебнамі ў царкве і касцёле. Адбыліся яны толькі праз дзень. На школьным пляцы, аднак, настаяцелі абодвух прыходаў пасвяцілі дажынкавыя вянкі. Настаяцель гарадоцкага праваслаўнага прыхода а. Мікалай Астапчук сказаў нам:

— Дажынкі гэта перш за ўсё падзяка Богу за плён, які выдала зямля, дзякуючы цяжкай працы. Як відаць, не заўсёды дажынкі адбываюцца згодна з традыцыяй. Было і так, што дажынкі адбываліся ў нядзелю і пачыналіся ад святой літургіі, у час якой далучалі малітвы за плён. Калі ёсць хлеб і вада, няма голаду. Хлеб гэта сімвал, не толькі найважнейшая страва. Хлеб мае еўхарыстычнае значэнне ў літургіі. Якраз праз хлеб дзякуем Богу. Просім Госпада, каб прыняў хлеб і праз гэты хлеб нас блаславіў.

Пасля высвячэння дажынкавых вянкоў а. Астапчук звярнуўся да прыбылых:

— Заўсёды трэба памятаць пра тое, што гэта не толькі мой плён. Гэта мая праца, але гэта Бог дае мне сілу, сваё бласлаўленне і ўсё тое, што неабходнае, каб плён мог вырасці. Таму такое важнае, каб умець плёнам дзяліцца. Трэба ўмець дзяліцца тым хлебам, умець дзяліцца з тымі, хто ў патрэбе.

Войт Веслаў Кулеша не скрываў:

— Я вельмі задаволены, што дажынкавыя традыцыі і звычаі падтрымліваюцца ў нашай гміне. Гэта дзень, калі можам належным чынам ацаніць цяжкую працу хлебаробаў і падзякаваць ім за тое, што штодзень можам мець свежы хлеб на сваіх сталах. Гэта дзень, калі можна цешыцца ўраджаем. Сяляне пераважна самі добра спраўляюцца з праблемамі. Гміна дапамагае ім, будуючы дарогі ці памагаючы запоўніць заяўкі на даплаты. Бачым, як нашы земляробы стараюцца мадэрнізаваць свае гаспадаркі і здабываць еўрасаюзныя сродкі.

Старостам дажынак у Залуках быў Міраслаў Тарасэвіч з Навасёлак, уласнік пяцідзесяцігектарнай гаспадаркі з малочнай спецыялізацыяй, на якой працуе каля дваццаці гадоў:

— Гэты год не быў для нас задобры. Дажджы і затапленні перашкаджалі ва ўборцы ўраджаю. Збожжа атрымалася нядобрай якасці і яго незашмат. Дзякуй Богу, што не наступілі ў нас нейкія стыхійныя бедствы.

Пацвердзіла яго думку старасціна Агнешка Альшэўская з Радуніна, уласніца 25 кароў.

— Як сказаў староста, гаспадарылася цяжка з-за гэтых затапленняў і дажджоў.

Затое Юры Хмялеўскі (штодзень беластачанін), дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку, які быў галоўным арганізатарам імпрэзы, падвёў са сцэны:

— Гэты год можна палічыць ураджайным, хаця надвор'е было капрызлівым.

На пляцы перад амфітэатрам можна было пазахапляцца буйной гароднінай і садавінай: морквай, пятрушкай, сельдэрэем, капустай ці яблыкамі, вырашчанымі спяваючым у „Каліне" Пятром Сакалоўскім, што вядзе сертыфікаваную экалагічную гаспадарку, адзіную такую ў Залуках і адну з нешматлікіх падобных у аколіцы. Мы спыталіся ў яго, як яму ўдалося вырасціць такія „волаты", што кшталтам адрозніваюцца ад традыцыйных, крамных:

— Пасеяў, палоў і само вырасла. У мяне расце толькі на каровіным угнаенні. Не прымяняю ніякіх апырскаў. Можа гэтая гародніна незапрыгожая, ды затое вельмі смачная. Што ўдаецца — прадам, а што не — самі з'ямо. Цяжкая гэта праца, бо ўсё ад пачатку да канца трэба рабіць рукамі, без ніякіх апырскаў. Я меў нізкатаварную натуральную гаспадарку, пераставіў яе на агратурыстычную з міні-заапаркам: куры, каза, трус... Гэта найменшая гаспадарка з усіх такіх навокал.

Дажынкаваму святу ў Залуках і сёлета спадарожнічаў не толькі канцэрт мясцовых народных калектываў, але і дажынкавыя турніры. Было між іншым спаборніцтва па вязанні трох снапоў на час, у якім змагаліся Пяшчанікі, Залукі, Гарадок і Меляшкі. Лічыўся тут не толькі час, але і якасць вязання, што не атрымлівалася найлепш. У сваю чаргу меткім вокам мусілі выказацца ўдзельнікі конкурсу па кіданні чобатам. Забава працягвалася дапазна пры музыцы народнай капэлы з-пад Кракава.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

Сёлетнія мерапрыемствы ў рамках XIV Летняй акадэміі ведаў пра польскіх татараў праходзілі пад лозунгам „Культура спалучае народы". 20 жніўня на цэнтральным скверы Саколкі сабраліся аматары шматкультурных атракцыёнаў, падабраных Лакальнай групай дзеяння „Татарскі шлях".



# Акадэмія ведаў пра татараў

Ініцыятарам і галоўным арганізатарам гэтага штогадовага свята татарскай культуры быў Юзэф Канапацкі, старшыня Падляшскага аддзела Саюза татараў Рэчы Паспалітай Польскай, які толькі што адышоў у вечны спачын. Летнія акадэміі пачаліся ў Саколцы, адкуль на некалькі гадоў пераносіліся ў Гданьск і Дуброву-Беластоцкую. Ад чатырох гадоў ганаровыя абавязкі гаспадара свята зноў выконвае Саколка.

Як сказаў чытачам „Нівы" старшыня Лакальнай групы дзеяння „Татарскі шлях" і заадно віцэ-бурмістр Саколкі Пётр Буйвіцкі, сёлетні выпуск акадэміі ведаў пра татараў присвячаецца памяці яе стваральніка Юзэфа Канапацкага. На жаль, у сёлетнім выпуску не было традыцыйнай папулярна-навуковай сесіі, якую заўсёды арганізаваў пакойны Юзэф Канапацкі і традыцыйных татарскіх баёў.

— Мы не паспелі загоіць свежых ран па страце нашага настаўніка і апекуна, стаць годнымі яго наследнікамі, але пастараемся нияк з гэтым справіцца, — кажа Пётр Буйвіцкі. — Абяцаем у наступным годзе вярнуць і навуковую сесію, і мілітарныя паказы. Нашае аб'яднанне з'яўляецца шматсектарнай арганізацыяй. У ім дзейнічаюць прадпрымальнікі, самаўрадаўцы, грамадскія актывісты, жыхары горада і навакольных вёсак, жанчыны і мужчыны. Не абмяжоўваемся выключна да татарскага асяроддзя. Можна сказаць што татараў сярод нас найменш, але гэта не праблема. Наша мэта — супрацоўніцтва з татарскай супольнасцю. Яны маюць свае згуртаванні і не мусяць абавязкова далучацца да нас. Галоўнай місіяй аб'яднання з'яўляецца актывізацыя сельскіх абшараў і папулярызацыя гмін Сідра, Кузніца-Беластоцкая, Шудзялава, Крынкі і Саколка. Адрасатамі акцыі „Культура спалучае народы" з'яўляюцца перш за ўсё жыхары нашай гміны. Але з'язджаюцца сюды таксама татары з усёй Польшчы. Гэта добры спосаб папулярызацыі нашага рэгіёна, а канкрэтна „Татарскага шляху". Кожны год мы ладзім кірмашы, тэматычныя конкурсы і сямейныя пікнікі. Запрашаем цікавыя калектывы з розных куткоў свету. Былі ў нас, між іншым, літоўцы і караімы. У наступным годзе пастараемся паказаць артыстаў з Татарстана.

Сёлетнюю праграму свята папярэдзіла ўрачыстае адкрыццё новага тратуара пры цэнтральным скверы горада, які з'яўляецца першым этапам сур'ёзных аднаўленчых работ на сакольскім рынку. Віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Мечыслаў Башко павіншаваў жыхароў Саколкі — незвычайнага горада еўхарыстычнага цуду — з паспяховым завяршэннем першага этапа работ. Пасля асвячэння новай дарожкі прадстаўнікамі трох канфесій пачаўся канцэрт з удзелам, між іншым, беларускіх калектываў. На сцэну запрасілі крынскую „Зараніцу". Іх выступленне было вельмі добра прынята публікай, большасць якой упершыню мела нагоду сустрэцца з гэтым адзіным на Сакольшчыне беларускім калектывам. Прысутныя не скрывалі здзіўлення, што ў непадалёкіх Крынках знайшліся ахвотныя пасур'ёзнаму займацца такога тыпу артыстычнай дзейнасцю. Са сцэны пад кінатэатрам „Сокал" прагучаў таксама беларускі фальклор, выкананы па-сучаснаму гродзенскім калектывам „Сугучча". Упершыню перад сакольскай публікай запрэзентаваліся „Чыжавяне" з Чыжоў і „Родына" з Дубяжына. Мабыць найбольш удала ў гэты дзень запрэзентаваліся чачэнскія дзеці з танцавальнага калектыву „Ловзар", якія паказалі характар і духоўнае багацце свайго народа. Маладыя і зусім маленькія артысты перадалі са сцэны агромнейшую пазітыўную энергію, вялікую любоў да роднай культуры і ладу жыцця, становячыся ў гэтым сэнсе ўзорам іншым нацыям нашага рэгіёна.

— Не вельмі мне падабаецца гэтае мерапрыемства, — кажа „Ніве" шпацыруючы вакол канцэртнай пляцоўкі бацька двазох дзяўчынак школьнага ўзросту. — Я спадзяваўся знайсці сучасныя, дзіцячыя атракцыёны. Прэзентаваны рэпертуар зусім нецікавы і неадэкватны. Асабіста не планую перадаваць сваім дзецям ведаў пра старыя традыцыі ці нямодны фальклор. Хаця я нарадзіўся ў Саколцы адчуваю сябе лонданцам. Там маё месца. Тут нудна, нічога не дзеецца, толькі людзі паміраюць...

— Розны ўзровень прэзентуюць выступаючыя калектывы, — з'едліва падсумоўвае канцэрт шасцідзесяцігадовая Іаанна. — Добра было б паслухаць нешта польскамоўнае, больш сучаснае. Тут усё народнае, а нам хочацца сапраўднай, польскай эстрады.

— Я прыйшла сюды паглядзець, паслухаць спевы, — кажа васьмідзесяцігадовая стройная бабуля. — Тут нават па-беларуску спяваюць. Калісь у маёй роднай вёсцы Воўкушы, што пяць кіламетраў ад Кузніцы, беларуская мова была вельмі папулярнай. У нас таксама такія песні гучалі.

— Я толькі што прыйшла, — кажа маладая жанчына з хлопчыкам на руках. — Я тут кожны год. Людзям вельмі падабаецца гэтае мерапрыемства, сюды з'язджаюць нават з Лондана, у якім пражывае палова жыхароў Саколкі. Яны спецыяльна бяруць водпускі, каб пабываць на татарскім свяце. Усе мае знаёмыя з нецярпеннем чакаюць чарговых выпускаў гэтага мерапрыемства.

Сваімі ўражаннямі падзяліўся з чытачамі „Нівы" сакольскі татарын Адам Шчансновіч, прадстаўнік старадаўняга шляхецкага роду, паселенага тут князем Вітаўтам.

— Вельмі тут прыемна, цікавыя выступленні. Трэба сказаць, што ў Саколцы часта адбываюцца канцэрты і сустрэчы. Перад нашай публікай прэзентуецца многа калектываў з Беларусі і Польшчы, якія выконваюць беларускія песні. Мне гэта вельмі падабаецца. Мае бацькі таксама гаварыць між сабою па-беларуску. Часам гэта мяне дражніць і я ім прыказваю ў Польшчы гаварыць па-польску. Мая мама родам з беларускага Навагрудка, а бацька — з Саколкі. Яны найчасцей глядзяць руска- і беларускамоўныя тэлеканалы. Гэта немагчыма вытрымаць, — смяецца спадар Шчансновіч. — Я таксама гавару па-беларуску, мабыць лепш, чым некаторыя англічане па-англійску. Жывем сярод беларусаў, гэта наша рэгіянальная мова. У навакольных вёсках яна па сёння пераважае. Працую таксістам, усякія кліенты трапляюцца. Многія з іх карыстаюцца менавіта беларушчынай. З усімі трэба дагаварыцца. Калісь мы з маім калегам Янушам Цукерманам, яўрэем па паходжанні, уласнікам статка коней пад Багонікамі, калісь дзеячам супрасльскага клуба верхавой язды, ладзілі лагеры шматкультурнасці, у якіх удзельнічалі каталікі, праваслаўныя, мусульмане і ён — яўрэй. Гэтыя лагеры сталі не толькі асяродкам сапраўднага міжнацыянальнага сяброўства і талерантнасці, але таксама выдатна паспрыялі развіццю татарскага прадпрымальніцтва ў Крушынянах. Я вельмі рады інтэграцыі і амаль сямейным адносінам паміж прадстаўнікамі розных нацый і канфесій нашага рэгіёна. Мы, татары, не забываемся пра нашыя, родныя традыцыі. У асноўным сустракаемся ў час галоўных святаў, ладзім інтэграцыйныя балі ў час байрама. Нам залежыць, каб нашы злучаліся між сабой. Мой сын ужо жанаты з каталічкай, але яны засталіся пры сваіх традыцыях. Іх сын, калі падрасце, сам вырашыць аб сваёй рэлігійнай прыналежнасці. Самае галоўнае, каб верыў у Бога.

XIV Летняя акадэмія ведаў пра польскіх татараў мела свой працяг наступнага дня ў Багоніках. Там усіх ахвотных чакаў, між іншым, сямейны пікнік, сустрэчы з імамам і паказы традыцыйных татарскіх танцаў.

## 50 ці 120?

Раней у вёсцы Бялкі Нарваўскай гміны на вуліцы быў такі ўхабісты брук, што д'ябал мог паламаць свае ногі разам з каровінымі капытамі. Тады вадзіцелі легкавушак ездзілі па вуліцы слаломам ад плота да плота, выбіраючы раўнейшы брук так, каб не паламаць рысораў. Цяпер, калі на нашай вуліцы паклалі асфальтавае палатно і вуліца стала роўнай і сухой, хоць ты каціся, шафёры легкавушак пачалі ездзіць не сорак ці шэсцьдзесят кіламетраў у гадзіну, як калісь, але сто дваццаць і больш. Некаторыя вадзіцелі так едуць, што страх глядзець, так даціскаюць акселератар, наколькі выцягне машына; гэтаксама ездзіць і моладзь на матацыклах.

Падумайце, даражэнькія вадзіцелі, гэтая вёска забудаваная па абодвух баках вуліцы, у ёй жывуць людзі, з гарадоў прыязджаюць да сваіх бабуль і дзядоў дзеткі на канікулы. Ёсць у вёсцы таксама каты і сабакі ды іншая жывёла. На няшчасце нямнога трэба, таму трэба прытармазіць перад вёскай і спакойна праехаць па вуліцы.

Усім вадзіцелям жадаю шырокай дарогі.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

## Беласток прыгажэе

Праўленне камунальнай маёмасці ў Беластоку клапоціцца пра выгляд горада, а перш-наперш пра цікавыя па архітэктуры будынкі. Сёлета мае яно 6 мільёнаў злотых на рамонты будынкаў гістарычнай каштоўнасці.

Зараз ідзе мадэрнізацыя будынка па вуліцы св. Роха, 3, ды рамонт даху на мастацкай галерэі „Арсенал". Аднаўляюць камяніцу па вуліцы Сянкевіча, 22: пабудавалі новы дах і ўставілі новыя вокны. Ужо адрамантавалі вялікі мураваны будынак па вуліцы Кілінскага, 15. На яго сцяне ўдалося ўратаваць цікавыя аздабленні ды абрамаванні акон.

Цяпер прыгожа выглядаюць аднаўлёныя дамы ў даваенным рабочым пасёлку па вуліцы Сухавольца на Дайлідах.

Варта дадаць, што зараз найбольш аднаўлёных будынкаў сустрэнем ля алеі Пілсудскага, на рынку Касцюшкі ды пры вуліцах Варшаўскай, Ліпавай і Сянкевіча.

## Больш лепшых дарог

Летам наглядаецца вялікі рух пры будове і мадэрнізацыі маставых на павятовых дарогах у Нараўчанскай гміне.

— Ужо закончылі мы асфальтаванне звыш паўтаракіламетровай дарогі з Леснай у Альхоўку, — кажа намеснік старасты Гайнаўскага павета Андрэй Скепка. — Мадэрнізавалі ўхабістую асфальтавую маставую з Нараўкі ў Міклашэва. У пачатку жніўня паклалі асфальт на вуліцы ў вёсцы Сушчы Барок. Мае яна 700 метраў даўжыні.

Варта дадаць, што Сушчы Барок знаходзіцца на павятовым шляху з Нараўкі ў Падляўкова цераз Мінкоўку.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Каб усім было лягчэй!


Фота Ганны Кандрацюк

У апошні час многа ў нас гістарычных падзей. Вось і нядаўна, 14 верасня г.г., здзейснілася першая пешая пілігрымка ў Кудак. У вандроўку рушылі гімназісты са школы ў Чыжах, са сваім бацюшкам Маркам. Чыжоўскую моладзь мы наведалі дзень пазней, у дзень святых Антона і Феадосія Пячэрскіх. Для іх спецыяльна паставілі палатку на святым астраўку. З рання там аж кіпела ад жыццярадаснай энергіі, а палатка напамінала нам вулей з пчолкамі, якімі славіцца прынарваўскае ўрочышча Кудак.

— Хто з вас умее гаварыць па-свойму? — пытаем у кампаніі. Спачатку ўсе адмахваюцца рукамі з гучным пратэстам: *Я не умем так гадаць!*

На першы агонь сябры аднак выстаўляюць Міколку Баніфацюка. Гімназіст, пад смех грамады, спачатку заяўляе зухавата:

— Ішоў каб у школе не сядзець.

Адказ выклікае агульную весялосць. І разуменне. Усім падабаецца шчыры адказ і тое, што хлапец нармальна размаўляе *па-свойму*. Сам ён родам з Каменя, што ў Ласінскай парафіі. Пасля гумарыстычнага пралога Міколка зробіцца дарослым:

— Я пайшоў у пілігрымку, каб прысвяціць сябе, — кажа ўжо больш сур'ёзна гімназіст.

— А канкрэтна?

— Бо часам бываю *нягжэчны*, — прызнаецца Міколка. — Ну... б'юся з хлапцамі, крычу, настаўляюся. Ну... і ацэнкі трапляюцца розныя.

— Ну, добра — а як атрымалася твая дарога? Пра што думаў, што вырашыў памяняць?

— Ішлі праз Курашава, пасля павярнулі на Максімоўшчыну, разам прайшлі дзесьці 27 кіламетраў. Але я не стаміўся, файна ішлося з бацюшкам Маркам, лёгка, свабодна, весела. Я думаў як быць лепшым, каб бацькі былі мною больш задаволеныя.

— Малайчынка! Ты першы раз у такім паломніцтве?


Фота Ганны Кандрацюк

— Хадзіў на Грабарку, чатыры разы ўжо.

— А я штогод хаджу на Грабарку, — заяўляе Аня Якімюк.

Як гэта магчыма? Аня спачатку едзе ў Сямятычы да сям'і, каб разам з імі ісці ў паломніцтва на Святую Гару. Зараз яна адна з трэцяга класа гімназіі выправілася ў Кудак. Чаму не пайшлі іншыя — не ведае, мусіць *лені*. Аня хацела падтрымаць тату, які арганізаваў гэтае паломніцтва. І памаліцца, перадумаць многія справы.

Пра што найбольш думала ў дарозе ў Кудак?

— Пра свае асабістыя справы. За год буду паступаць у Бельскі беларускі ліцэй. Каб усё было добра, каб атрымалася па мыслі...

— Я пайшоў у паломніцтва каб дапамагчы бацюшку. І яшчэ, каб пабыць разам з калегамі, — дадае Адась Анджаюк, гімназіст родам з хутара Ляшчыны. Хлапец — супернезвычайны аптыміст. Ён задаволены ўсім, што атрымаў у жыцці. Нічога не хацеў бы памяняць. І заўсёды думае, каб дапамагчы іншым. Каб усім было лягчэй. А ў Кудаку ўжо не першы раз. Таму адчувае тут крыху як дома. Раней прыязджаў у скіт са старэйшымі братамі Паўлам і Рафалам.

Дапамагалі айцу Гаўрылу.

Цяпер вельмі прыемна тут быць разам з калегамі, гаварыць ім пра месца, пра тое як прыязджаюць сюды людзі добрай волі, каб разам будаваць духовае прыстанішча для нашых людзей. Шкада толькі, што яго найлепшага сябру бацькі забралі дамоў пасля паломніцтва. Ну, але ж не дзеля забавы, паехаў дапамагаць ім капаць бульбу...

— А ты часта ходзіш у царкву? — пытаем Адася.

— Я — прыслужнік, таму ў царкве ў кожную нядзельку бываю.

Сярод чыжоўскай моладзі сустракаю Паўліну Кавальчук. Паўліна — найбольш дарослая і сцішаная тут дзяўчына, у хустачцы на галаве, каля што не падыходзіць да гэтага інтэр'ю. Бо яна ўжо выпускніца Беластоцкай палітэхнікі. А сама яна з Пасынкаўскай парафіі. Нядаўна вярнулася з паломніцтва ў Афіны, якое арганізаваў іх настаяцель а. Яўген Сушч.

— Многа моладзі паехала ад вас у Грэцыю?

— Пераважна былі з Беластока і іншых мясцовасцей, — чую ў адказ. — Нашых не так проста на нешта намовіць, ім не хочацца, не цікава. Адны забавы ў галаве.

Як яна сама апынулася сярод чыжоўскай моладзі на паломніцтве?

— На *Головосека* была на могілках у Чыжах і там сустрэла бацюшку Марка. Ён запрасіў ісці разам у паломніцтва. Ну, добрая дарога ў нас атрымалася, многа спявалі, цэлы *багагласнік* пераспявалі.

Паўліна любіць духоўныя падарожжы, бо яны наводзяць у жыцці патрэбную раўнавагу.

— Цяпер маладым вельмі цяжка, — кажа, — не хапае да шчасця духовасці. Мы нібыта ўсё маем і ўвесь час на ўсё наракаем. Сядзім пры сваіх камп'ютарах і тэлевізарах і ў нас на нішто няма часу і ахвоты.

— А ты сама што найбольш любіш у паломніцтвах? — пытаем у дзяўчыны.

— Люблю, калі разам ідзем і ўсе спяваем. Тады дзесьці высока лунае душа, адразу іначай глядзіш на свет і на тых што ідуць разам з табой. Хочаш, каб усім было добра.

У гэтым месцы хочам дадаць, што ўсе нашы сябры размаўлялі па-свойму і ўсе адклалі на бок свае тэлефоны і смартфоны...

ЗОРКА

# Конкурс пра восень (27)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу звязанага з перыядам восені. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу:

**1. Якія нашыя птушкі адлятаюць апошнімі ў вырай?**

*а) буслы,*
*б) ластаўкі,*
*в) жураўлі.*

**2. Назавіце старажытнае восеньскае свята, звязанае з ураджаем?**

*а) Дажынкі,*
*б) Багач,*
*в) Фестываль бульбянай кішкі.*

**3. Хто аўтар беларускай п'есы „Чарнобыльская малітва", якая будзе паставлена 22 верасня г.г. у Беластоку падчас урачыстага адкрыцця новага тэатральнага сезона 2012/2013?**

*а) Святлана Алексіевіч,*
*б) Данута Бічэль-Загнетава,*
*в) Людміла Рублеўская.*

**4. Калі нарадзілася ідэя пабудовы капліччкі ў гонар св. Антонія ў Кудаку каля Нарвы?**

*а) у пачатку XVI ст. (1518 год),*
*б) у другой палове XIX ст.,*
*в) у пачатку XXI ст.*

Адказы дасылайце да 30 верасня 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Адказ на конкурс № 24: Вучні з Орлі сталі лаўрэатамі I Агульнапольскага конкурсу „Ратуем і вучым ратаваць"; музычныя загаловак спектакля на словы Агнешкі Асецкай, пастаўленага вучнямі беластоцкай „чацвёркі" — „Станцыя вар'ятаў"; кубак „Нівы" ў валейбольным турніры за 2011/2012 школьны год заваявала гімназія з Кляшчэляў; 24 чэрвеня / 7 ліпеня адзначаецца Купалле — старажытнае славянскае свята ў гонар сонца і кахання.

Узнагароду — ***„Смяшынкі" Віктара Шведа*** — выйгралі **Мая Мішчук з Арэшкава, Юлька Лясота з Нараўкі.** Віншуем!

ЗОРКА

# Легенда пра Кудак



На змярканні пачаў лупіць халодны дождж. Галоўкі стагоў, што густа значылі шырокую даліну Нарвы, апрануліся ў шэра-белы туман. Князь Іван Вішнявецкі разумеў, што адбываецца штосьці паганае. Ён, аднак, маўчаў. І маліўся, каб яго служкі не патрацілі розуму. Праўда, яго асцерагалі, каб не выпраўляцца ў начную дарогу, каб як агню асцерагацца месцаў між Курашаўскай Гарой і Супрунамі. Там, як шаптаў народ, блукаюцца грэшныя душы. Яны зводзяць з абранай дарогі і застаўляюць хадзіць кругаля да белага рання. Добра, калі дачакаешся золку! Князь не хацеў верыць у паганскія былі. Але на выпадак, калі б прыйшлося загінуць, ён вырашыў пазначыць свой след. Ён выняў з кішэні белую ядбабную хустку і з дапамогай шпількі і чырвонага віна запісаў кірыліцай: *Сёння, 15 верасня 1518 года, я глядзеў сваю пушчу ля Нарвы. Цэлы божы дзень сустракаўся з пчалярамі, глядзеў вуллі і борці. Мёд загадаў адправіць у Кіеўска-Пячэрскую лаўру. Адвячоркам направіўся ў Гарадок, каб там заначаваць у замку. За Забалотчынай коні згубілі дарогу. Усе напалоханыя да жывога, у пушчы завываюць ваўкі...*

Князь хацеў напісаць яшчэ свой тастамент, але ж апамятаўся. Ён ведаў, што хрысціяніну нельга губляць надзеі. І, засунуўшы ў кішэнь сваю запіску, ён стаў натхнёна прасіць дапамогі ў кіеўскіх старцаў. Словы малітвы суцішылі і закалыхалі яго неспакойны, стомлены дух. Князь здрамнуўся. Пасля нейкага часу, як на яве, прыдаўся святы Антоній Пячэрскі. Старац узняў руку і паказаў дарогу. Яна ішла праз трыснёг, які наздзіў князю, расхіляўся перад яго карэтай.

Пасля коні нечакана знайшлі брод і перайшлі на другі бераг ракі. Яны пацягнулі на сухі груд, дзе сярод дубоў лунала святло. Князь аддыхаўся. Ён высеў з карэты, пацалаваў зямлю і з удзячнасцю ўзнёс малітву Усявышняму. Здавалася яму, што ў пазалочаных кронах дубоў лунае нябесная мелодыя анёлаў. Ад стагоў веяў прыемны пах сушанай мяты, аеру і лабазніку.

— Тут будзе манастыр у гонар святога Антонія, — паабяцаў удзячны за ацаленне князь.

Неўзабаве на астраўку Кудак з'явілася каплічка, а цягам наступных гадоў і стагоддзяў тут знаходзілі схоў пацярпеўшыя ад пераследу манахі. Як кажуць запіскі, харчаваліся яны адно саранчой і дзікім мёдам...

Культ і памяць пра святога Антонія на Кудаку час ад часу парываліся. Аднак адораныя месцы ніколі не прападаюць. Вось, пяцьсот гадоў пазней ад таго падарожжа князя Вішнявецкага на астравок прыйшлі тысячы людзей. Прывяла іх надзея і ўдзячнасць за божую дапамогу. Народ і духавенства, прыаздобленае ў зялёна-залатыя рызы, яшчэ раз пакланіліся першым прапаведнікам хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях: святым Антонію і Феадосію Пячэрскім. І мы там былі разам з чыжоўскай моладдзю 15 верасня 2012 года. У восеньскім паветры, час ад часу, быццам з імглы стагоддзяў, вылятаlі з манастырскіх вуллёў пчолкі.

ЗОРКА

# Музыка з кайфам

## „Гаротніца" на „Камяніцы"



ultra-music.com

У Беларусі вядомыя прынамсі дзве „Камяніцы". У адной можна смачна паесці, нават меню табе па-беларуску прынясуць і будзе гэта нармальна. У другой „Камяніцы" няма паверхаў, ні канкрэтных памяшканняў. Другая — гэта культурная з'ява, з якой звязаны сёлета пару складанасцей. „Камяніца", пра якую пішу, гэта музычны фестываль, з якім таксама звязаных некалькі цікавых ідэй. Першая такая, што кожны, хто прыйдзе на фестываль у народнай вопратцы, уступ мае бясплатны. Добрая, а нават справядлівая прапанова ў выпадку фольк-фестывалю. Другая ідэя паявілася сёлета. Гэта сцэна, на якой прэзентуюцца аматары фольку, непрафесіяналы і ім падобныя. Добрая ідэя таксама — трэба даваць шанс, канфрантаваць, а нават паказваць колькі яшчэ працы перад выканаўцамі, але ў асноўным даваць магчымасць выступіць. Трэцяя ідэя, якая акрэслівае фестываль гэта тое, што грошы ад квіткоў ідуць на патрэбы Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, дзе фестываль праходзіць. Сёлета адбыўся яго чацвёрты выпуск, але скандал вакол фестывалю выклікаў факт, што не выступіла беларуская зорка — „Крамбамбуля". Гэта выклікала зразумелыя галасы сумпраціву, незразумення, у галоўным у бок тых, якія маглі аб гэтым рашаць (і не гавару тут пра арганізатараў). Былі такія, якім мяшала не тое, што не хапіла „Крамбамбулі", а тое, што нельга было там набыць півa. І не ведаю зараз ці здзіўляцца, ці спачуваць. Галоўнае, што я імкнуся сёння зачапіць праграму гэтага фестывалю, якую пасля выступу расейскай зоркі — гурту „Іван Купала" завяршыў беларускі гурт „Гаротніца".

„Гаротніца" — чарговы яркі, пасля „Рэха", праект Андруся Такінданга. Гэты вакаліст, паэт, музыка з'яўляецца безумоўна нестандартнай асобай, калі ідзе пра выбар музычных сродкаў, настрою ці характару музыкі, якой займаецца. Мне гэта вельмі падабаецца, што ў Беларусі ўзнікаюць гурты, якія немагчыма змясціць у нейкія рамкі. Сярод іх напэўна і „Рэха", і „Гаротніца". Гурт узнік у 2007 годзе і з гэтага часу апрацоўвае свой характар, які паўсюль называецца „дэструктыўным пажарным аркестрам з жаночым вакалам, элементамі ска, класікі, джаза, рэгі і ярка акрэсленай маргінальнай творчай пазіцыяй". Можна гэта назваць інтэлектуальнай дэфініцыяй, але трэба дадаць, што гэта перш за ўсё гурт, які прапануе музыку ў форме кароткіх гісторый ды мэтай якога з'яўляецца прапанаваць кранальную мелодыю з танцавальным рытмам і недурным тэкстам. Каляровa безумоўна ў іх свеце ёсць таксама — хопіць паглядзець іх у час выступу!

i_basovka@o2.pl

# Вершы Віктара Шведа

## Няма па шлюбе казак

— Скажы мне, калі ласка,
Ты мой татулька любы,
Чаму наогул казкі
Канчаюцца ўсе шлюбам?

— Скажу табе адразу,
Такая ў жыцці існасць,
Па шлюбе няма казак,
Ёсць толькі рэчаіснасць.

## Студзеньскае паўстанне

Настаўніца пытае Ваню
Аб польскім
Студзеньскім паўстанні.
А бедны Ваня моцна трудзіцца,
Не ведае, было, ці збудзецца?

— А можа нешта нам Альжбета
Раскажа аб паўстанні гэтым?
— Не ведаю, як яно маецца,
Але мой татка выбіраецца.

# Польска-беларуская крыжаванка № 39

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 34:**
Экран, рыс, пупок, нос, вера, палаца, палац, хек, панарама. Пупок, кроў, рыс, пах, палена, лак, перац, на, тур, сом, пасаг.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Wóz / Punkt | | Lato | | Gen / Toczydło |
| | Uszko / Wiara | | Show | Ballet / Mapa | | | | | |
| | | | Kolana / Port | | | | | | |
| | Rów | Wzlot / Bas | | | | | | | |
| Zbór | | | | | Sari | | | | |
| Artysta malarz | Art | | | | | | | | |
| | | | | | | Era | | | |

Першы раз спаткаў я спадарыню Галіну Бірыцкую з Плянты ў час адкрыцця выстаўкі «Гафт і карунка», якую ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы наладзіў у 2011 годзе Гайнаўскі дом культуры, што арганізаваў V Агляд гафтаў і карунак. Атрымала яна тады ўзнагароду за свае прыгожа вышываныя і аздобленыя карункамі ручнікі, але на выстаўцы былі запрэзентаваны таксама яе вышываныя крыжыкам іконы свяціцеля Мікалая Цудатворца, апостала Пятра і Божай Маці «Хуткапаслушніца».




Галіна Бірыцкая каля сваіх ручных вырабаў, карунак, гафтаў і вышыўкі ў час „Кірмашу зубра" ў Гайнаўцы

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Закаханая ў карунках і гафтах

Свае ручнікі, сурвэткі і гафтаваную пасцель дорыць спадарыня Галіна дзецям, унукам і іншым сямейнікам, а таксама прадае людзям, што робяць у яе заказы. Галіна Бірыцкая нават купіла палатку і ў час фэстаў і іншых арганізаваных у пленэры святкаванняў прэзентуе і прадае сабраным свае карункі, вышыўку і гафты выкананыя ўручную. У час сесіі Рады гміны Нараўка, што адбылася 26 чэрвеня гэтага года, спадарыня Бірыцкая атрымала дыплом прызнання за падтрымліванне народных традыцыяў, які прысвоіла ёй Рада і спецыяльную ўзнагароду. Гэта была падзяка за яе шматгадовую ангажаванасць у карысць прапагандавання народнага рукадзелля і за выступанне на розных аглядах і кірмашах ад імя сваёй гміны. Падзякавалі спадарыні Галіне між іншым войт Нараўчанскай гміны Міхола Павільч і старшыня Рады гміны Мечыслаў Грыц.

У ліпені гэтага года спаткаў я спадарыню Галіну Бірыцкую ў Гайнаўцы, у час «Кірмашу зубра», калі паказвала прыезджым турыстам, гайнаўянам і людзям з наваколля свае вырабы. Пад палаткай, што мела ахоўваць ад дажджу, віселі яе вышываная крыжыкам ікона Спасіцеля, карункавыя сурвэткі, аздобленыя карункамі і вышываныя ручнікі і ляжалі між іншым падушкі ўпрыгожаныя гафтамі. Спадарыня Галіна пачала паказваць мне асобныя вырабы і расказваць пра сваю любоў да ручных работ, якімі пачала пастаянна займацца апошнімі гадамі. Раней яна працавала на чыгунцы і выхоўвала чацвёра дзетак, а пазней была таксама актыўнай жанчынай, вязала на машыне світары і вяла магазін у Нараўцы. Калі дзеці сталі самастойнымі, а часу, асабліва восенню і зімой, стала больш, пачала вязаць кручком, вышываць і гафтаваць. Рашыліся мы дакончыць размову пазней, якой рэзультатам стаў мой тэкст.

— Рабіць кручком паспрабавала я ўжо ў пятым класе падставовай школы. Тады мая настаўніца ў Пачатковай школе ў Ляўкове мела прыгожую хустачку аздобленую карункай, якая мне вельмі спадабалася. Аказалася, што гэта яе сястра так прыгожа гэтую хустачку азабіла і я спецыяльна пайшла да гэтай сястры, каб паказала мне, як гэта робіцца кручком. Дома я азабіла тады карункай каўнерык да школьнага мундзірка, выкарыстаўшы на гэта кусок белага палатна мамы. Цёця мамы пахваліла мяне за маю работу, а мама не накрычала, што я змарнавала палатно і з гэтага моманту я пачала выконваць карункі. Хадзіла я ў школу ў Ляўкова з роднага Лазовага, 7 кіламетраў і таму дарога дамоў займала мне многа часу. Калі былі вольныя хвіліны, мама паўтарала, каб я займалася вучобай, бо гэта самая важная справа і не дазваляла мне многа вязаць кручком. Больш стала рабіць уручную, калі падрасла і ў пасаг пасцель выгафтавала, накідку на ложак вышыла і сурвэткі зрабіла, — расказвала Галіна Бірыцкая. — Калі выйшла замуж у Плянту, ізноў часу мала было, каб вышываць, ці гафтаваць, але бывала, што нагой дзіця калыхала і адначасна кручком сурвэтку рабіла. Сабе гафтавала яшчэ пасцель і выконвала кручком абрусы, бо такія модным былі.

У 2006 годзе першы раз спадарыня Галіна публічна запрэзентавала свае работы на аглядзе і выстаўцы «Гафт і карунка» ў ГДК і адразу атрымала там узнагароду, і з таго часу штогод выконвала новыя ручныя работы на ўзгаданы агляд рукадзелля і за кожным разам ўзнагароджвалася. Спачатку прэзентавала перадусім сурвэткі і абрусы, а пазней вышытыя і аздобленыя карункамі ручнікі і вышываныя крыжыкам іконы.

— Летам гэтага года я паказвала свае работы і прадавала іх у час «Дзён беларускай культуры» і «Агратурыстычнай біржы» ў Беластоку, «Кірмашу зубра» ў Гайнаўцы, «Бандароўскай гасцёўні», «Прымацкай бяседы» ў Міхалове і ў Новай Волі ў час дабрачыннага паўмарафона, а яшчэ маю намер паехаць на Дажынкі ў Нараўку, «Археалагічны фэст» у Збуч і «Свята грыба" ў Міхалова. Куды толькі мяне запрашаюць, то еду, — пералічвала спадарыня Галіна Бірыцкая, а яе ікона Мікалая Цудатворца вісіць у хаце.

Апошнім часам вярнулася мода ўпрыгожваць іконы даўнімі ручнікамі і ў спадарыні Галіны робяць заказы на іх. Узоры для ручнікоў, як для вышыўкі гладдзю на іх, так і для карункі бярэ яна з даўніх ручнікоў, што захаваліся на Беласточчыне ў розных бабуль. Раней вышывала крыжыкам розныя краявіды і іншыя карціны, узоры для якіх брала з розных часопісаў, а апошнім часам часцей вышывае яна іконы.

— Узоры для выконвання кручком сурвэтак і абрусаў ды для гафтаў на пасцелі бяру я з часопісаў і з нашых даўніх вырабаў, — сказала спадарыня Бірыцкая. — Некаторыя асобы рашаюцца нават засцілаць у сваіх пакоях, абсталяваных на даўні лад ложкі так, як калісь засцілалі. Спачатку засцілаюць *прасцінёю* з карункамі, пасля вышываны *дыван* і зверху кладуць падушкі з гафтамі. Ёсць у мяне таксама ўзоры для выконвання карункавых фіранак, але не хапае часу, каб заняцца вязаннем фіранак.

Нядаўна заказалі ў яе асаблівыя вырабы, ручнічок і хустачку з традыцыйнымі ўзорамі на вяселле, бо апошнім часам пайшла мода вянчацца на такіх гафтаваных і аздобленых карункамі ручніках, а хустачка таксама будзе аздобленая карункай.

— Працуючы ўручную я супакойваюся, забываю аб штодзённых турботах і клопатах. Каб многа займацца вышыўкай або рабіць кручком — трэба гэта моцна любіць. Я закаханая ў карунках і гафтах і таму магу так многа часу адводзіць на гэтую працу ўручную. Калі я знаходжу новыя матывы для сваіх работ, цягне мяне, каб прымяніць іх на практыцы і пабачыць, як яны будуць красавацца на маіх работах. Ад сваёй сяброўкі з Міхалова ўзяла я звыш стогадовай даўнасці ўзор вышывання крыжыкам на абрусе і цікава мне, як ён запрэзентуецца на новым абрусе, — расказвала Галіна Бірыцкая. — Я лічу, што трэба вяртацца да нашых традыцыяў і падтрымліваць нашае даўняе беларускае багацце, каб не загінула яно, а на розных палатняных вырабах захавалася многа нашых даўніх цікавых узораў. Добра, што зноў моднымі становяцца нашыя выкананыя на даўні лад ручнікі. Бывае, што людзі, якія ідуць на *входчыну* ў новую хату, купляюць ікону і ручнік да яе з даўнімі ўзорамі.

Маладыя асобы ўжо амаль не займаюцца выконваннем традыцыйных гафтаў, вышыўкі, ці карунак, а каб нават у будучыні магчы на пенсіі займацца гэтым рукадзеллем, трэба раней навучыцца яму. Ці будуць пераемнікі ад такіх асоб, як спадарыня Галіна Бірыцкая?

— У маладых зараз мала часу для гэтага, так як і ў маіх дзяцей. Каб навучыцца вязаць кручком, трэба хаця б нейкі час на гэта адводзіць, а зараз у маладых многа працы, а калі дамоў яны прыйдуць, то яшчэ трэба ў інтэрнэце нешта пашукаць, — шкадавала спадарыня Галіна. — Калі б мяне запрасілі на нейкія майстар-класы, я ахвотна прыняла б у іх удзел і паспрабавала б маладых навучыць народнаму рукадзеллю. Можа ў Нараўцы нешта такое сарганізуюць. Магла б я таксама паказаць свае вырабы на выстаўцы, каб людзей пераканаць, што варта яшчэ карыстацца вырабамі зробленымі на даўні лад.

**На станцыі ў Рыгораўцах быў я, здаецца, год таму. Стаяў тады яшчэ там стары драўляны станцыйны будынак, пастаўлены, мабыць, пасля апошняй вайны, у агульнасці падобны на такія „вакзалы”, якія ў той жа сам час былі пастаўлены ў Гайнаўцы, Чаромсе ці Бельску. У названых мясцовасцях у 1980-х гадах былі ўзведзены новыя вакзальныя будынкі, мураваныя, якія зараз амаль не ўжываюцца.**




Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# З Воленскага прыхода

У Рыгораўцах сёлета пабачыў я заміж станцыі толькі пустое месца, быццам там нічога і не было. Ну, неспадзяванка гэтая не надта такая ўжо і неспадзяваная, бо ж яшчэ раней зніклі з паверхні зямлі прызначаныя пасажырам станцыйныя будыначкі па той жа чыгуначнай чаромхаўска-бельскай лініі ў Сухавольцах і Падбеллі. Асталіся там толькі станцыйныя шыльды, быццам нейкія тапаграфічныя дакументы для будучых даследчыкаў мясцовай чыгуначнай гісторыі. Магчыма, што суполка, якая мае ў сваім распараджэнні рухомую чыгуначную маёмасць, па інерцыі яшчэ спыняе свае цягнікі на традыцыйных прыпынках з пакінутымі шыльдамі, а суполка, якая трымае чыгуначную нерухомасць, глядзіць у далёкую будучыню, не прадбачваючы на гэтай прасторы ніякіх пасажыраў. А пасажыры яшчэ час ад часу тут здараюцца і можна было б падумаць крыху пра іх далёкаму чыгуначнаму начальству. Я тут не маю на думцы нейкіх адмысловых будынкаў, бо такія ўжо тут стаялі, спакушаючы на дэструкцыйныя подзвігі прынагодных асілкаў, але думаю пра звычайныя паветкі, такія як хаця б на прыпынках гарадскога транспарту, дзе можна было б захіліцца ад дажджу ці хаця б прысесці. Але далёкае начальства хіба не для таго, каб займацца шэрым пасажырам, што час ад часу выбярэцца з вёскі ў горад. Яно на тое вялікім начальствам, каб жыць як у царстве нябесным — бестурботна.

На прыпынку ў Рыгораўцах з ранішняга беластоцка-чаромхаўскага цягніка зышла апрача мяне яшчэ адна асоба, якая неўзабаве знікла ў адной з недалёкіх ад станцыі сядзіб. Дарэчы, тыя сядзібы, якія раней былі месцамі сельскагаспадарчай вытворчасці, становяцца зараз адно месцамі пражывання. А навакольныя палі, якія чалавек калісь заваяваў у прыроды, зараз зноў вяртаюцца ва ўладаранне апошняй, зарастаючы маладым дрэвастоем.

Жвіроўка з Градалёў у Рыгораўцы нагадвае крыху паркавую алею і крыху адкрыты зверху зялёны тунель. У адкрытую прастору выходзіць яна адкрываючы від на рыгораўскія могілкі, якія светла-цэментнай рысай намагільнікаў кантрастуюць з навакольнай зеленню. Высокія сосны стаяць там быццам у задуменні, запрашаючы таксама мімаходнага гледача да рэфлексіі перад немінучай рысай патойбаковага свету.

Недалёка могілак стаіць невысокая драўляная трыянгуляцыйная вышка. Яна, так як і раней згаданая чыгуначная шыльда па станцыі, з'яўляецца памяткай па ранейшай высокай вышцы, якая стаяла там яшчэ да пачатку 1970-х гадоў. Не захаваліся да нашага часу тыя збудаванні, якія былі неад'емнай часткай мясцовага краявіду яшчэ паўвеку таму; сумняваюся, ці ёсць недзе такі музей колішняй вёскі, які б захаваў такую цікавінку. Цяпер жа іх ролю ўзялі на сябе геадэзічныя спадарожнікі Зямлі...

Перад Рыгораўцамі прыдарожная груша шчодра рассыпала свае сакавітыя дары на дарожным палатне і на абочыне. У даўнейшы час такія ласункі сабралі б калі не людзі, дык прыходзячы на пашу дабытак. Дабытак звёўся ды і людзі, у якіх захаваліся сілы, не спакушаюцца на прыдарожныя дары прытручаныя цывілізацыйнымі адкідамі.

Змяніліся і самі вясковыя людзі. Цяпер наогул не збіраюць яны дароў прыроды з поля, агародаў ці садоў. Дары прыроды яны купляюць. Вось і ў Рыгораўцах прыпыніўся я каля двух мужчын, якія прыселі на лавачцы чакаючы аўтакрамы. Ад іх я і даведаўся, калі знікла згаданая высокая трыянгуляцыйная вышка. І пра могілкі — яны двойчы ўзбуйняліся, пашыраючы абшар існуючых могілак; не так, як у Парцаве ці Спічках, дзе новыя месцы для пахаванняў закладаліся ў аддаленасці ад існуючых раней некраполій.

Едучы поездам паміж прыпынкамі Рыгораўцы і Сухавольцы відаць на супрацьлеглым да гэтых вёсак баку абгароджаны крыж, быццам там была нейкая адзінокая магілка. Вось я і загаварыў пра такую магілку і мае субяседнікі паінфармавалі мяне, што ў наваколлі іхняй вёскі ёсць чатыры такія прычыгуначныя месцы, пазначаныя крыжамі. Гэта месцы трагедый, дзе людзі траплялі пад поезд. Двойчы былі яны пад „добрай датай”, а адзін кінуўся пад поезд, калі ягоная ненаглядная адвярнулася да яго плячыма.

Каля Рыгораўцаў ёсць яшчэ і буйнейшыя брацкія магілы. Па дарозе ў прыхадскую Рыгораўцам Вульку-Выганоўскую зараз за чыгуначным пераездам ёсць абагароджаная брацкая магіла расійскіх салдат часу Першай сусветнай вайны, а некалькі сот метраў далей утрая большая такая ж магіла нямецкіх ваякаў. Колькі там ляжыць астанкаў — невядома. Яшчэ адна брацкая ваенная магіла знаходзіцца па дарозе ў Малінніку.

Пры мне заехалі ў Рыгораўцы дзве аўтакрамы. Невялікія гэта самаходы, бо, мабыць, малалікія ў іх пакупнікі, да таго ж мабыць і іхні попыт не надта раскошны, абмежаваны адно да некалькіх асноўных прадуктаў, што па кішэні вясковым пенсіянерам.

Пакінуўшы маіх суразмоўцаў афармляць іхнія пакупкі, падаўся я далей. Мінуў я тамашнюю вясковую святліцу; заглянуў цераз акно ўсярэдзіну — абсталяваная яна паводле навейшай святлічнай моды: стаяць там простыя сталы і такія ж крэслы. Перад новымі ўваходнымі дзвярмі тоўпіцца прыродны самасей, каля дзвярэй стаіць бярозавы венік для абмятання снегу з абутку.

Зайшоў я ў Вульку-Выганоўскую, адлеглую ад Рыгораўцаў тры кіламетры, а там — ні душы. Прычынай гэтаму аказалася прыхадское свята Сплення ў недалёкіх Кляшчэлях. Толькі пакідаючы вёску ў напрамку менавіта Кляшчэль, спаткаў я двух грыбнікоў, што прайшліся па сваіх грыбных месцах, забіраючы сваю не надта багатую здабычу.

Але пакуль пакінуў я гэтую вёску, заглянуў на тамашні прыцаркоўны цвінтар. Першая, каменная стэла без крыжа з'яўляецца своеасаблівым уваходам у мясцовае мінулае, якое пасля разрасцецца ў незвычайна аб'ёмісты сюжэт...

На згаданай стэле высечаны надпіс:



„Doni Annie z Krupickich Bobrowskiej pobożnej Matce smutni synowie Józef i Michał 1825”. Вось гэта бадай адзіны след пакінуты найслаўнейшым ураджэнцам Вулькі-Выганоўскай у ягонай роднай вёсцы; мова тут пра Міхала Баброўскага. На старонках „Нівы” пра яго пісалі Васіль Белаказовіч у 1958 годзе і Мікола Гайдук у 1980 годзе.

Мікола Гайдук так пісаў пра Вульку-Выганоўскую: „Захаваліся тут выразныя сляды колішняга, яшчэ з часоў росквіту паншчыны, паселішча: прасторнае „дворышча”, насупраць яго, на пагорку — царква, прыгонная вёска-вуліцоўка коціцца ўніз да безыменнай рачулкі, якую калісьці загаціўшы грэбляю ў ставок і пры ёй перагледзелі ў вадзе адначалёсны млын, а на скрыжаванні дарог усеўладна панавала, відаць, карчма. Шчыльна замкнуты ў самім сабе свет, дзе цэлымі стагоддзямі амаль нічога не змянялася, толькі з'яўляліся новыя ўладальнікі ды павялічваліся абавязкі паншчынных сялян у карысць двара. Першым, вядомым з пісьмовых помнікаў (пад 1560 годам) панам тут быў Іван Выганоўскі і ад яго прозвішча паявілася цяперашняя назва сяла. „Пасадзіў” ён вёску не на „сырым корані”, але на даўно абжытай зямлі: у трох кіламетрах на захад ад яе, на беразе рэчкі Нурэц, ва ўрочышчы „Замак” знаходзілася вялікае гарадзішча (папярочнікам у 80 метраў), якое археолагі адносяць на X стагоддзе або і на ранейшы час. У канцы трыццатых гадоў пры закладванні падмуркаў пад новую царкву, таксама траплялісяпахаванні, якія могуць адносіцца да сярэднявечча. Гэта дазваляе меркаваць, што тутэйшыя ваколіцы ў IX-XII стагоддзях былі густа населены ўсходнеславянскім насельніцтвам, і цяперашняя царква ў Вульцы працягвае, мабыць, традыцыю існаваўшага ў тыя далёкія часы ў гэтых ваколіцах (у самой крэпасці, пасля якой асталося гарадзішча „Замак”, або ў пасадзе каля яе) праваслаўнага храма. Царква ў Вульцы-Выганоўскай з'яўляецца захавальніцай нацыянальных традыцый і мастацкіх каштоўнасцей. Выдатны знаўца гісторыі Царквы на Падляшшы а. Р. Сасна ў сваёй манаграфіі пра Воленскі прыход прыводзіць значны ўрывак запісу, які пакінула генеральная візітацыя гэтага храма ў 1727 г. Мне асабліва хочацца звярнуць увагу на тое месца ў ім, дзе гаворыцца аб прадметах унутранага дэкору царквы: „Ołtarz snycerskiej sztuki u wszystkich porządny... Deisus [кампазіцыя, якая ўключае выявы Хрыста (пасярэдзіне) і звернутых да Яго ў малітоўных позах Маці Боскай і Іаана Хрысціцеля] z Apostołami nowy moskiewski... Namiestnych obrazów godnych trzy carskie drzwi staroświeckie... Ołtarz wielki na zrębie... obraz Najświętszej Matki z Panem Jezusem, cudowny, miary niby półtorałokciowej w ramkach snycerskich delikatnych... obrazów dwa wielkich Salwatora [Збаўцы] i św. Antoniego moskiewskich...”. Гэта ўсяго толькі частка абсталявання храма ў XVIII стагоддзі, яно значна ўзбагацілася творамі царкоўнага мастацтва ў пазнейшыя часы з ахвяраванняў розных людзей, сярод якіх відаць прозвішча шматгадовага тутэйшага ўніяцкага свяшчэнніка Кірыла Баброўскага. Але не толькі такімі каштоўнасцямі трывала ўпісалася ў нашу гісторыю воленская царква. Якраз род гэтых жа Баброўскіх займае ў ёй важнае месца. Яго пачынальнік К. Баброўскі паходзіў з дробных беларускіх баяраў з былой Драгічынскай зямлі, нарадзіўся ў 1738 г., вучыўся ў Кляшчэлях, Брэсце і Кіеве, у 1780 г. быў назначаны настаяцелем воленскай царквы і пражыў тут аж да смерці ў 1824 г.”. Пра ягонага сына, згаданага ўжо Міхала — у наступнай частцы.

# Юбілей Максіма Танка

Іван СУХОЦКІ

Ніколі не думаў, седзячы за школьнай партай у цяжкі пасляваенны час, што калі-небудзь давядзецца сустрэцца з тымі пісьменнікамі, творы якіх уваходзілі ў нашы хрэстаматыі і падручнікі па роднай літаратуры. Аднак, на шчасце, мне пашанцавала часта сустракацца, гутарыць з выдатным паэтам, грамадскім дзеячам Максімам Танкам (Яўгенам Іванавічам Скурко, нарадзіўся 17 верасня 1912 г.), які ў 70-х гадах мінулага стагоддзя двойчы выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР па Ашмянскай выбарчай акрузе. Якраз у той час я там працаваў сакратарам райкама партыі. Ад тых сустрэч ладна прайшло часу, шмат чаго забылася, сцёрлася з памяці, але ж асобныя моманты, якія тычыліся асобы Яўгена Іванавіча засталіся са мной назаўсёды. Я паважаю слова «асоба» свядома. І сапраўды гэта так. Бо Максім Танк, акрамя таго, што насіў званне народнага паэта Беларусі, быў выдатным палітыкам, мудрым філосафам, простым суразмоўцам. Успамінаю мінулае, і перад вачыма паўстае мажная танкаўская высокая постаць з шырокімі плячыма, непаслухмянымі валасамі і прыжмуранымі добрымі вачыма. Калі ён сустракаўся з публікай, то неяк самават, без спешкі, па-сялянску заходзіў за трыбуну і без паперкі вёў гутарку з выбаршчыкамі, якія без прымусу прыйшлі ў залу раённага Дома культуры, каб паслухаць свайго дэпутата. Голас Максіма Танка гучны, непаўторны. Яго ні з кім не зблытаеш. Аўдыторыя была заўжды зачаравана яго выступленнем, бо паэт-дэпутат гаварыў аб штодзённых праблемах нашага жыцця, а ў канцы чытаў свае творы і адказваў на пытанні. А ў перапынку ў фае быў акружаны шчыльнай сцяной людзей. Кожнага ўважліва слухаў, многім раіў што рабіць, а некаторым па магчымасці аказваў адпаведную дапамогу. Напрыклад, радасцю свяціўся твар В. Станулевіча, старога даваеннага падпольшчыка пры санацыйнай Польшчы, які па хадайніцтве дэпутата атрымаў персанальную пенсію. Незабыўнай засталася паездка ў Мінск са старшынёй калгаса «Маяк» Іванам Іванавічам Гіруцём. Прымаў нас Яўген Іванавіч цёпла, прыязна ў Доме літаратара па вуліцы Фрунзе. Як старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі пазнаёміў нас з прыгожым будынкам, бібліятэкай, потым завёў у свой кабінет. На сценах партрэты класікаў нашай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа.

— Ну, хлопцы, вы ж з чымсьці завіталі да мяне, бо так пракаціцца, сам ведаю, у вас няма часу, — мяккім голасам распачаў першым гутарку.

Іван Гіруць папрасіў дапамогі ў будаўніцтве сховішча пад бульбу і гародніну, а я ў набыцці ў Мінскім спецыялізаваным




камбінаце нацыянальных касцюмаў для Ашмянскага народнага ансамбля «Крыніцы».

— Ведаеце, сябры, — сказаў Яўген Іванавіч, — вазьміце паперу і ўсё выкладзіце ў пісьмовай форме, а я ўжо вашы просьбы накірую ў адпаведныя органы.

Мы гэта зрабілі. Праз пэўны час нашы просьбы былі паспяхова вырашаны. Хочацца сказаць, што дзякуючы ў тым ліку і намаганням Яўгена Іванавіча, у раёне былі пабудаваны сярэднія школы ў Жупранах і Барунах.

Пасля працяглай з намі гутаркі гаспадар кабінета падняўся, набраў нумар хатняга тэлефона і сказаў жонцы:

— Любаша! Падрыхтуй стол на чатыры асобы. Мы выязджаем.

Праз паўгадзіны мы былі на вуліцы Кульман. Высаджваемся з машыны, а шафёр наш, Раман, застаецца ў салоне. І тут жа Яўген Іванавіч вярнуўся, падышоў да яго і сказаў:

— Так, браток мой, нягожа. Пойдзем, паглядзім як жыве ваш дэпутат.

А потым жартаўліва дадаў:

— Вы мяне ў сваім раёне з хлебам і соллю, з караваем сустракалі. Я ў вялікім даўгу перад вамі.

На чацвёртым паверсе дзверы адчыніла Любоў Андрэеўна, жонка паэта. Глянуўшы на нас, загаварыла:

— Ах, хлопчыкі, якія вы маладыя, прыгожыя. Праходзьце, праходзьце смялей, бо бульба з грыбамі астывае. Вы, відома, здарожыліся, прагаладаліся.

У прасторнай гасцінай кніжная шафа, на сцяне партрэт маладой Любові Андрэеўны, выкананы алейнымі фарбамі віленскім мастаком Пятром Сергіевічам. Гаспадар дастае з серванта бутэльку французскага каньяку і з усмешкай на вуснах дадае:

— Толькі што вярнуўся з Парыжа. Паспрабуем, што п'юць французы.

І пацякла па-сямейнаму нетаропкая, спакойная гаворка. Відаць, пад свежым уражаннем паездкі па Францыі паэт працягваў:

— А вы ведаеце, чаго просяць нашы дыпламаты, калі хто прыязджае за мяжу: хлеба, звычайнага нашага чорнага хлеба. А ў мяне цяпер бясконцыя паездкі. Вершы пішу ў дарозе. Іншы раз нават паехаць на Нарач няма часу.

І як заўсёды цікавіўся ён справамі ў раёне, які ўраджай на палях, як вырашаюцца пытанні культуры. За сталом Яўген Іванавіч шмат жартаваў, расказваў розныя прыгоды, якія здараліся ў час яго паездак. Мне запамятаўся ягоны расказ аб паездцы ў Грузію.

— Вечарам пасля падарожжа па рэспубліцы запрасілі пісьменнікаў у рэстаран. Шмат было прамоў, дасціпных шаржаў. А потым пачалася гульня: адзін другому пачалі перакідваць персікі. Кінулі ў мой бок аранжавы персік, які папаў у талерку з супам. Мой твар, рубашка былі забруджаны. Сябры грузіны папрасілі прабачэння і купілі мне новую рубашку і гальштук.

Пасля цёплага прыёму мы пакінулі гасцінную кватэру па-сяброўску развітаўшыся з гаспадарамі.

На апошнюю сустрэчу з выбаршчыкамі ў раён Максім Танк прыехаў не адзін, а разам з Нілам Гілевічам і Данутай Бічэль-Загнетавай. У мястэчку Жупраны, дзе пахаваны Францішак Багушэвіч, на магілу ўсклалі кветкі. Максім Танк расказаў, што ў 1930-я гады, жывучы ў Вільні, ён сустракаўся з тымі людзьмі, якія добра ведалі Мацея Бурачка. У прасторным доме культуры калгаса імя Ф. Багушэвіча адбыўся літаратурны вечар. Зала была перапоўнена жыхарамі мястэчка. Усе прыйшлі паслухаць выступленні гасцей. На наступны дзень я прыйшоў, каб правесці гасцей, якія накіроўваліся з Ашмян у Гродна. Па дарозе я расказаў Нілу Гілевічу, што ў Нарушаўскай школе працуе настаўнік Бандарчук, які калісьці на Лагойшчыне вучыў Ніла Гілевіча. Паэт тут жа зацікаўлена сказаў:

— То давайце наведаем яго.

Але разумны, разважлівы Максім Танк сказаў:

— Не на гэты раз, я вас не адпускаю, бо мы спознімся ў Гродна, а там запланавана наша сустрэча ў абкаме партыі, а потым з чытачамі.

Я правёў гасцей да літоўскай граніцы і цёпла з імі развітаўся. І сёння каюсь, што не правёў іх да Гродна, бо мог бы давядацца шмат чаго новага, як калісьці Максім Танк жыў, пісаў і змагаўся за Беларусь у старажытнай Вільні. І зараз часта я дастаю альбом з фотаздымкамі паэта, перачытваю яго кніжкі з аўтографамі і паказваю сваім дзецям і ўнукам. Плануем у 100-гадовы юбілей слыннага паэта наведаць Пількаўшчыну, дзе пахаваны паэт з любай жонкай, ускласці кветкі на іх магілу і паслухаць пошум нарачанскіх сосен, пад якімі ўзрос наш славуты паэт.




Адна з самых старажытных цэркваў у Беларусі — Каложская (Барысаглебская) царква ў Гродне. Яна вядомая з XII стагоддзя. Зараз храм з'яўляецца дзеючым. Праўда, дзве страрадаўнія яго сцяны не захаваліся — цяпер на іх месцы сучасныя ўмацаванні. Прычына разбурэння царквы — абвалы берага Нёмана, над якім узвышаецца храм. Археолагі і гісторыкі, а таксама звычайныя людзі, якім неабыякавы лёс Каложы, прыкладаюць намаганні дзеля рэстаўрацыі царквы, але пакуль яна не праводзіцца.

Магчыма, у нечым дапаможа Каложскаму храму сайт, што нядаўна з'явіўся ў інтэрнэце па адрасе **http://kalozha.by**, які завецца „Каложскае брацтва".

Выгляд сайта падаецца вельмі прываблівым — уверсе выяўленне фотаздымак Каложскай царквы з боку Нёмана, гэта значыць, адтуль, дзе відаць як новыя, так і старыя сцены.

Рубрык на сайце не надта многа — усяго толькі чатыры, але яны досыць поўна перадаюць як гісторыю, так і сучаснае жыццё старадаўняга храма. Галоўная старонка распавядае аб навінах, якія адбываюцца ў прыцаркоўным брацтве і ў царкоўнай дзейнасці. Так, для мясцовых жыхароў карысная інфармацыя будзе расклад заняткаў нядзельнай школы для дзяцей альбо таінствы, што адпраўляюцца ў Барысаглебскай царкве.

Старонка „Брацтва" змяшчае дзве падрубрыкі — „Творчасць" і „Дакументы". У першай падаюцца звесткі аб культурніцкай дзейнасці брацтва, а таксама змешчаны вялікі верш на рускай мове пра Каложу. „Дакументы" месцяць статут брацтва, якое было створана ў 2004 годзе.

Найбольш змястоўнай з'яўляецца рубрыка „Каложа". Менавіта адтуль можна даведацца пра тое, што даная царква — адзіны захаваны ў Гродне храм XII стагоддзя. „Храм названы ў гонар старадаўніх святых удзельных князёў Барыса і Глеба. Хутчэй за ўсё, ініцыятарамі яго пабудовы маглі быць альбо яны самі, альбо іх бацька — Усевалад (Усеваладка) Давыдавіч, праўнук кіеўскага князя Яраслава Мудрага, прапраўнук вялікага кіеўскага князя Уладзіміра і полацкай князёўны Рагнеды", — вее сівой даўніной расповед аб Каложскім храме.

Аб магчымым будучым Каложы можна даведацца ў падрубрыцы „Аднаўленне царквы". Там змешчаны малюнкі розных варыянтаў рэстаўрацыі храма. Пра старадаўні цудатворны Каложскі абраз Божай Маці расказваецца ў падрубрыцы „Святыні Каложы". На жаль, дзе ён цяпер — невядома. Калі падчас Першай сусветнай вайны расійская армія адступала, ён быў вывезены, а пасля заканчэння вайны не быў вернуты. „У гады рэвалюцыі быў згублены і ягоныя пошукі на працягу многіх гадоў не прынеслі поспеху. Цяпер у Свята-Барыса-Глебскай (Каложскай) царкве знаходзіцца спіс гэтага цудатворнага Каложскага абраза Божай Маці", — распавядаецца на сайце.

Не забыліся ў Каложскім праваслаўным брацтве пра падрастаючае пакаленне. Так, у рубрыцы „Нядзельная школа" месціцца „Дзіцячы лісток", што мае назву „Стрэчанне". „Трэба быць уцаркоўленым, гэта значыць жыць рэгулярным царкоўным жыццём, рэгулярна ўдзельнічаць у Таінствах Царквы, у яе малітвах, жыць яе радасцямі і болямі. Толькі ўцаркаўляючыся, мы набываем апору, робім сваё жыццё багацей і цікавей, набліжаемся да дасканалай радасці", — звяртаецца да малых і іх бацькоў настаяцель Каложскай царквы, свяшчэннік Уладзімір Барысевіч.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Скарбы БЕЛАРУСІ

### Свяцкая быль

Лёс мясцовасці з такой прасветленай назвай не можа быць простым. Бадай ні пра аніводны архітэктурны помнік, як пра свяцкі палац, не пісалі ў Беларусі так шмат апошнія гады. Але існая сёння ў Беларусі ўлада далёкая ад сапраўднай культуры. Яе прыярытэт — прага хуткай нажывы і сучасныя лёдавыя палацы. Апошнія, зрэшты, зусім нерэнтабельныя, але ў гэтай дзяржаве галоўнае — навязлівая ідэя, няхай і ўвогуле абсурдная, а не сэнсавае напаўненне справы.

Палацава-паркавы ансамбль паблізу вёскі Свяцк, што ў Гарадзенскім раёне ў кірунку Сапоцкіна, у XVIII стагоддзі належаў роду Валовічаў. Пабудаваны ён быў паводле праекта знакамітага на нашых землях італьянскага архітэктара Джузэпэ дэ Сака. Выканаўцамі былі найлепшыя майстры з Вільні, Гародні, Варшавы. Рэалізацыю праекта пачаў гарадзенскі маршалак Юзаф Валовіч, а скончыў ягоны сын Антон, які таксама займаў значныя дзяржаўныя пасады. У канцы XIX стагоддзя маёнтак быў прададзены яўрэйскім купцам, а пазней ён быў распарцаляваны. Былое ўладанне распалася на пяць частак з рознымі назвамі. У адной з іх — Свяцку-Горным — працавала патачная мануфактура, якая вырабляла вінаградны цукар і іншыя блізкія прадукты.

Пасля Першай сусветнай вайны палац выкупіў Дэпартамент здароўя польскага ўрада з намерам стварыць у ім лякарню для нарkаманаў. Тут ад згубнай залежнасці лячылася гарадзенская мастацкая багема. Паміж войнамі архітэктурны ансамбль быў рэстаўраваны. Грошы на адбудову „выбіваў" гісторык Юзаф Ядкоўскі. Пазней тут месціўся вайсковы шпіталь. А ў савецкі час у палацавым комплексе размясціўся санаторый для хворых на сухоты. Двухпавярховы палац (першы паверх — калідорны, другі — анфіладны) залічаецца да эклектычных аб'ектаў, спалучаючы ў сабе рысы барока і класіцызму. Колішнія шыкоўныя інтэр'еры фактычна страчаны. Не захаваліся і размалёўкі славутых мастакоў свайго часу Францішка Смуглевіча і Тамаша Маньkоўскага.

З цягам часу галоўны будынак палаца стаў разбурацца. У 2005 годзе медыцынскі рэабілітацыйны цэнтр выехаў і сядзіба доўгі час пуставала. Пасля яе раённы аддзел адукацыі перадаў задарма акцыянернаму таварыству „Азёрны", за якія заслугі — ніхто не ведае, магчыма іншых ахвотных інвестараў проста не знайшлося.

Вакол свяцкага палаца размешчаны парк агульнай плошчай каля 12 гектараў, ставы і розныя пабудовы. Сярод іх вылучаецца неагатычная капліца-пахавальня. Наўкола размешчаны і вялікія камяні. Сюды ў Свяцк, за 12 кіламетраў ад Гародні, вельмі любяць прыязджаць вясельныя картэжы. Праўда, адзін час гэта стала праблемным — новы ўласнік імкнуўся ўсталяваць свае парадкі. Можа ў гэтым і была пэўная рацыя — узімку пад сценамі палаца было досыць небяспечна, бо падалі ледзяшы. Размоў пра адбудову і рэканструкцыю было столькі, што хапіла б на некалькі аб'ектаў, але справа ўвесь час тармазілася. А гісторыкі і экскурсаводы білі трывогу: першыя з-за катастрафічнага стану будынка, другія баяліся, што свяцкі палац стане недасягальным, а ён жа ёсць асноўнай атракцыяй на шляху да Аўгустоўскага канала. Зараз жа, здаецца, уласнік з аднаго боку і наведнікі, турысты з іншага, знаходзяць нейкія кампрамісы.

У адбудаваным у перспектыве комплексе нібыта размесціцца новы санаторый, на гэты раз элітарны, а значыць вельмі дарагі. Але бліжэйшая будучыня Свяцка ўяўляецца досыць цьмяна.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

# Штурханне Надзеі Астапчук

http://www.123people.se

Адной з галоўных падзей мінулых алімпійскіх гульняў у Лондане стала дыскваліфікацыя беларускай штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук. У фінале алімпійскага конкурсу яна штурханула свой снарад найдалей з усіх удзельніц спаборніцтва, атрымала залаты медаль, пастаяла на найвышэйшай ганаровай прыступцы, а *глава государства Александр Лукашенко наградил спортсмена-инструктора национальной команды Республики Беларусь по легкой атлетике Надежду Остапчук орденом Отечества III степени.* Аднак пару дзён пазней допінг-пробы Надзеі Астапчук далі станоўчыя паказанні, яе вынік быў анулiраваны, залаты медаль адабраны і прызначаны другой у спаборніцтве навазеландцы Валерыі Адамс; гэтак жа і трэцяя расіянка Яўгенія Калодка атрымала сярэбраны медаль, а чацвёртая кітайка Гун Ліцзяо — бронзавы.

Гэтае рашэнне Міжнароднага алімпійскага камітэта выклікала абурэнне афіцыйных беларускіх вярхоў. Партал uralweb.ru: *Лукашенко считает спорт высших достижений коррумпированным „до мозга костей”. По словам президента Белоруссии, судьи олимпийских соревнований „берут деньги и присуждают победу тому, кто дает больше”. Возмущение Лукашенко вызвала история с белорусским метателем молота Иваном Тихоном, которого не допустили к Играм в Лондоне из-за допинга, выявленного по итогам анализа пробы, взятой в 2004 году на Олимпиаде в Афинах. По словам Лукашенко, венгерскому молотобойцу Кристиану Паршу, который выиграл золото Олимпиады в Лондоне, „расчистили дорогу, убрав Тихона”. ”Вот что такое сегодня спорт — это не политика, это грязь и коррупция по всем направлениям, где только возможно”, — подчеркнул президент Белоруссии.* Хаця ён сам быў раз’юшаны на алімпійскіх чыноў галоўным чынам за тое, што не пусцілі яго ў Лондан.

Аднак пару дзён пасля гэтага гнеўнага спіча *главы государства* сама Надзея Астапчук *чихнула* на гэтыя абвінавачанні, выказаўшы падазрэнне, што забаронены сродак маглі ёй у ходзе алімпіяды падсыпаць свае, беларускія „таварышы”, бо ейныя допінгавыя праверкі перад стартам у Лондане, праведзеныя, між іншым, міжнароднай лабараторыяй у нямецкім Кёльне, нічога забароненага не выявілі. Нельга ёй дзівавацца — цяжка трэніравалася, асцерагалася ўсяго крамольнага, а тут такі жудасны ўдар. І не толькі асабістая крыўда, бо ж зараз на яе пасыпаліся ўсялякія абвінавачанні. Галоўная яе канкурэнтка Валерыя Адамс заявіла, што ў яе Надзея Астапчук *скрала момант*. Ды і навінныя загалоўкі не надта турбаваліся тонкасцямі сітуацыі, напрыклад партал rts.rs сербскага тэлебачання вясціў: *Надежда Остапчук на стубу срама* (на ганебным слупе).

У тагачасным інтэрв’ю парталу sport.tut.by Надзея Астапчук была заявіла: *Мы с Александром Николаевичем попытаемся расследовать это дело, в том числе с помощью следственных органов. Нужно продумать все до мелочей, вспомнить все эти дни между 30 июля и 5 августа: как они проходили, где и с кем общалась*. Але за расследаванне справы ўзялося таксама беларускае Нацыянальнае антыдопінгавае агенцтва: *В результате расследования, которое было завершено 7 сентября, был установлен факт несанкционированного назначения препарата персоналом спортсменки, и было получено признание тренера Александра Ефимова. Наставник сказал, что из опасений за недостаточно высокий результат подопечной добавил ей в пищу запрещенное вещество, ничего не сообщив об этом самой Остапчук*. Вось і атрымалася, што падсыпку допінгу выканаў яе найбольш даверaны *Александр Николаевич*. Толькі ягонае тлумачэнне надта цынічнае...

Былы трэнер беларускіх лёгкаатлетаў Аляксандр Рудскіх быў абураўся: *Как можно ставить в вину спортсменке и ее тренеру использование запретного вещества, когда весь мир в курсе тех методик, которые в настоящее время применимы?* За адказам на гэтае пытанне трэба звярнуцца да іншага, больш слаўнага Аляксандра, і пакарыстацца ягонымі гнеўнымі фразамі. Найбольш верагодна, што некаму *расчистили дорогу, убрав* менавіта Надзею Астапчук. А дзеля чаго ж найбольш давераны трэнер расчышчаў бы дарогу некаму іншаму? Калі не надта вядома ў чым справа, тады найбольш верагодна, што справа ў грошах. Сакрэтам палішынеля з’яўляецца карупцыя так у Расіі, як і ў Кітаі; там хабары не толькі бяруць, але і даюць. А грошы не смярдзяць, у тым ліку і беларускім чынам. *Вот что такое сегодня спорт — это не политика, это грязь и коррупция по всем направлениям, где только возможно*... Святая праўда, Аляксандр Рыгоравіч. Але ці толькі спорту яна датычыць? Ці пераўтварэнне насельніцтва Беларусі ў саветызаванае гарматняе мяса адбываецца так зусім без срэбранікаў? Ці не найцямней пад ліхтаром?

А можа тая цынічная падсыпка была выканана *по высочайшему повелению*, каб *глава государства* ў раз’юшанасці ад няўезду ў Лондан меў хаця хвілінную зачэпку абліць *грязью* Міжнароднае антыдопінгавае агенцтва, ды і ў Беларусі запусціць *серьезные разборки, как с военными*. Ну і крыху аптымізму, каб народ ад страху не ўпаў духам: *Давайте начинать плавать, бегать и прыгать. Пусть каждый занимается своим делом. Я вас услышал*. Апошняя фраза не адрасавалася Надзеі Астапчук.

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — сербскую пагаворку.

1. травяністая расліна сямейства ароідных (*Acorus calamus*) = 18 _ 19 _ 30 _;
2. партнёр бабы = 27 _ 28 _ 29 _ 8 _;
3. сталіца Катара = 32 _ 40 _ 1 _ 31 _;
4. юрыдычная дамова абмену маёмасцямі = 17 _ 24 _ 4 _ 44 _;
5. зброя рыцара = 35 _ 5 _ 43 _;
6. бацька Хама = 23 _ 21 _ 22 _;
7. абрадавая забарона = 10 _ 11 _ 25 _ 13 _;
8. верхняе адзенне старажытных рымлян = 20 _ 16 _ 39 _ 38 _;
9. ансамбль з трох выканаўцаў = 2 _ 6 _ 9 _ 3 _;
10. каляровая фарба для чарчэння = 15 _ 26 _ 14 _;
11. іспанскі парны хуткі танец = 41 _ 42 _ 33 _ 34 _;
12. вострая інфекцыйная хвароба (*Pestis*) = 37 _ 36 _ 12 _ 7 _.

| | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | | 3 | | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | | 10 | 11 | 12 | | 13 | | 14 | 15 | 16 | | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | | 22 | | 23 | 24 | | 25 | | 26 | 27 | 28 | 29 | | 30 | 31 | 32 |
| | | 33 | | 34 | 35 | 36 | | 37 | | 38 | 39 | 40 | | 41 | 42 | 43 | 44 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 34 нумара**

Поўнач, адвакат, лейцы, закалец, Скарына, манна, слалам, тона, авацыя, вучань, памяць.

Рашэнне: **З часам нават слон навучыцца танцаваць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 23.09 — 29.09

**(22.03. — 20.04.)** Найлепшыя сустрэчы — 24-28.09. Ахоўвай сваё сэрца і пазваночнік. Можаш мець неспадзеўку ад дзяцей, зрабіўшых тое, чаго не пахваліш. Патрэбны табе здаровы розум, каб адмовіцца ад прыманлівай прапановы, якая ў выніку будзе абманам ці афёрай. Поўня 30.09. зробіць з цябе нервозніка і скандаліста.

**(21.04. — 21.05.)** Магчымыя эмацыйныя праблемы з тваім любым чалавекам. 25-29.09. прапусціш шмат грошай, не адмовіўшыся ад спакус. У панядзелак не прапусці чагосьці важнага. У сераду лепш не спадзявайся матэрыяльнай ці фінансавай падтрымкі збоку. У суботу не рассып солі на стол, бо гэта прадвяшчала б расстанне.

**(22.05. — 22.06.)** Пераканаешся, што няма чагосьці такога як немагчымае. Зоркі шыкуюць ашаламляльныя поспехі Блізнятам народжаным паміж 3 і 9 чэрвеня. Калі прыйдзе табе ў галаву рэвалюцыйная задума, пакуль пра яе не распавядай. Можаш цяпер здабыць прыхільнікаў, якія стануць для цябе апірышчам.

**(23.06. — 23.07.)** Справішся з усімі хатнімі абавязкамі, будзеш мець дасканалы кантакт з сям’ёй. Твая нерашучасць у нейкай справе можа затармазіць твой поспех. Не перабольшвай праблем, усё наладзіцца само па сабе. Паездку ў панядзелак лепш адкладзі. У пятніцу можаш дабіцца сустрэчы з высокапастаўленымі асобамі.

**(24.07. — 23.08.)** Адкрыешся на новых людзей. Здабудзеш іх сімпатыю, ахвотна дапамогуць табе ў нялёгкіх справах. Ды ты будзеш у гэты час лішне недаверлівым. Ільвы народжаныя перад 27.07. павінны піць шмат мінеральнай вады. Часцей праводзь час на медытацыі і рэляксацыі.

**(24.08. — 23.09.)** Можаш разлічваць на кампанейскія поспехі. Усім пакажаш свае магчымасці. У кар’еры высветляцца новыя вырашэнні, дзякуючы чаму адчуеш сябе бяспечным і ўпэўненым. Не перакладвай сваіх фінансавых спраў на іншых, каб не мець страт. Дзевы народжаныя да 28.08. павінны пільнавацца з ежай.

**(24.09. — 23.10**.) Вельмі добрая кандыцыя — энергія, выдатны настрой, ахвота паварушыцца. Купі сабе штосьці новае з гардэробу. У сераду сустракайся з чыноўнікамі. 25-29.09. можа паявіцца канкурэнцыя, якая схоча цябе адсунуць у цень.

**(24.10. — 22.11.)** Светлая паласа ў тваім жыцці. Адкрываюцца новыя магчымасці, могуць падрасці даходы. Удзельнічай у культурных і грамадскіх сустрэчах. Трымайся здалёк ад эмацыянальных канфліктаў. Стрэс разгрузі фізічным высілкам. У панядзелак зробіш выбар, ад якога будуць залежаць змены ў тваім жыцці. У чацер не лянуйся і будзь засяроджаным. Скарпіёнаў народжаных да 27.10. чакаюць цудоўныя сюрпрызы.

**(23.11. — 22.12.)** Добра выйдзеш на замяшанні, якое зробяць іншыя („дзе двух б’ецца...”). Усе адважныя дзеянні і незалежныя ідэі прынясуць табе поспех. Ды мусіш засяродзіцца на найважнейшым. Звярні ўвагу на тое што ясі. Знойдзеш больш часу для сяброў. Лісток, што ўпадзе з дрэва і прыліпне да твайго адзення, няхай стане тваім талісманам (пакладзі яго ў кашалёк ці да дакументаў).

**(23.12. — 20.01.)** Прысвяці больш часу на супакаенне сябе, ачышчэнне ад кепскіх эмоцый. Час паспрыяе заробкам (парайся ў спецыялістаў). Чакае цябе ўдача ва ўсім, мноства добрых эмоцый, новых знаёмстваў і сустрэч. У сераду рацыянальна падыходзь да пакупак.

**(21.01. — 19.02.)** Ненайлепшы настрой, меншы імунітэт, горшая ўстойлівасць ад болю і стрэсу. Не плануй на гэты час цяжкіх аперацый і заданняў (поўня Месяца 30.09. верне табе сілы). Адпачывай, рабі тое, на што звычайна не маеш часу.

**(20.02. — 21.03.)** Ажывеш! Але не перанатужвайся. Задбай пра рух, пачні трэніраваць нейкі спорт — гэта забяспечыць ад стрэсу. 25-29.09. — добры час на інтарэсы, пошукі працы. З блізкімі закапаеш ваенны тапор. У сераду прыслухоўвайся сваёй інтуіцыі, якая цябе не падвядзе. У пятніцу магчымы нечаканы паварот падзей; пільнуй, каб сітуацыя не выйшла з-пад кантролю.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# На хвалі святой камерцыі (6)

Фота і тэкст
Евы СЦЕПАНЮК



Ці гэта ад празмернай спякоты, ці ад прыгажосці Метэораў, адораных дыхам свабоды, Рэня стала наракаць на свой лёс. Яна помсціла ксенафобам, ад якіх спазнала прыніжэнне і здзек. Яе расказ нагадваў сыграны дашчэнту беластоцкі шэдэўр, дзе ўсе няшчасці былі накліканы няпольскім паходжаннем. Не абышлося і без прэзрысцін на працы, дзе замест Раісы, як пазначана ў паперах, сяброўкі клікалі яе: *Рэнатка подай то, Рэнатка подай тамто...*

— А ты чаму празываеш сябе Рэняй! — не вытрымала я.

— Бо гэтае імя ўжо прырасло да скуры... і спадабалася. Калі трэба запоўніць які дакумент, механічна пішу *Рэната...*

Спачатку я паспрабавала ўцячы ад назойлівых прызнанняў Рэні. Яе гісторыі пра пераследы смакавалі як маладое віно, ад якога тупа баліць галава. З усяе душы я жадала ёй поспехаў у ментальным праабражэнні. Першы крок быў ужо зроблены. Я ведала таксама, што ніякая тэрапія не дапаможа маёй прыгоднай каляжанцы. Яе нацыянальны бунт пагасне як вакацыйны раман пасля вяртання дахаты і шлюбнага дадатку. Замнога тут рызыкі...

* * *

— О, *злее зла* няволя татарская! — асцерагае сярэднявечны аўтар „Аповесці пра пакутніка Меркурыя Смаленскага”.

Час, калі выспявае натхнёны чын рыцара Меркурыя, летапісцы параўноўваюць да біблейскага патопу. Сімвалам паразы з'яўляецца тут падзенне *святога богаспасаемага* Кіева. Каб паказаць маштаб знішчэння пасля нашэсця хана Батыя ў 1240-42 гадах, дастаткова прывесці лікі. З пяцідзесяці тысяч жыхароў славутай сталіцы астанецца ў жывых... дзве тысячы недабіткаў. Кіяўляне будуць змагацца да апошняга мужа, пах смерці на дзесяткі гадоў павісне ў паветры горада. Усё пойдзе з дымам. Згарыць Сафійскі сабор з гараджанамі, якія замест няволі выберуць смерць у агні. Аўтар без сумневаў знаходзіць віnavатага, — гэта разбэшчанае грамадства сярэднявечча: звышамбітныя самалюбныя князі і вяльможы, абыякавыя святары, прадажныя суддзі і ўсякай масці прайдзісветы. Іх блуд, *лютыя грэсі*, бясправе наклікалі справядлівы гнеў Божы! Ад яго пацерпяць усе, а ўжо найбольш невінаватыя: жанчыны, дзеці, жывёла. Помста з нябёс будзе доўгай і справядлівай, жах, гвалт і скрыгат зубоў будзе цягнуцца за сто гадоў...

Ды пры чым тут Кіеў? — падумае чытач. Сам Смаленск падобна як Полацак непасрэдна не пацярпеў ад мангольскага нашэсця. Справа ў геапалітыцы і яе паслядоўнасцях. Катастрофа Кіева падзейнічае як псіхалагічны эфект даміно, пасля яго здадуцца і люта адпакутуюць іншыя славянскія гарады ўсходне-паўднёвай Еўропы. Стары, абжыты свет, які да гэтага моманту будзе явіцца з залатымі купаламі Кіева, перакуліцца дагары нагамі, патане ў нябыце. Вобраз, калі Меркурый Смаленскі нясе ў руках сваю адсечаную галаву, можна ўспрыняць як сімвал фізічнага адсячэння Смаленска ад грэчаска-еўрапейскіх каранёў.

Маскаленка В.Н — „Святы Меркурый Смоленскі. Перамога”



* * *

Смак няволі валокся як горкая доля следам нашай экскурсіі, і не было спосабу каб яго ўтапіць, прагандляваць. Ён аб'яўляўся ў самых нечаканых момантах і месцах. І вось, калі з дапамогай хітрасці ўдалося мне адправіць Рэню ў краму з залатымі ланцугамі, прычапіўся яшчэ больш нахабны і дакучлівы хвост. Гэта быў Грышка. Мокры як з'яхканы пацук, ён даганіў мяне перад каплічкай, каб разам запаліць свечкі. Грышка неспакойна азірнуўся па баках: ці не звочыць нас хто з беластоцкай экскурсіі? Усе яго жэсты і словы выглядалі на канспірацыю. Нават калі паўтараў „Ай, душна!”. Грышка не разумеў, што яго праваслаўнае веравызнанне нікому ў Грэцыі не вадзіць, наадварот — ён павінен тут пухнуць ад гонару і дзякаваць бацькам, што ахрысцілі яго ў такой мудрай, прыгожай веры. Магчыма нешта такое ён хацеў прадэманстраваць — на жаль, атрымалася другая песня-падзяка. Грышка ўхапіў у жменю свечкі, запаліў і перуном паўтыкаў іх у пясок. Ён соп і кідаў вокам па баках, быццам рабіў штосьці забароненае. У мяне не было пад рукой грашакоў і я спыталася ў брата па веры, ці не разменіць мне еўра, — трэба ж заплаціць за свае свечкі. Тут жа ж стаяла скрынка з надпісам „Дзякуем за ахвяру”.

— A co ty taka głupia... — правучыў мяне разумака-таўстун. — Przecież nikt tu nas nie widzi...

Каб заахвоціць мяне да кражы, Грышка працягнуў сваю тоўстую лапу па чарговую свечку і з задаволенасцю на мордзе паставіў яе за сваю ўдачу.

*(працяг будзе)*

Рэлігійны-народны фэст у Даўгамосці, жнівень 2011 г.





ISSN 0546-1960